Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 48 (4848) 4 снежня 2015 г.

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК

# Беларусь — Туркменістан: масты дружбы

Нацыянальная выстаўка-кірмаш Рэспублікі Беларусь пройдзе ў сталіцы Туркменістана з 11 па 13 снежня. На экспазіцыі плошчай каля 1500 квадратных метраў, што разгорнецца ў ашхабадскім Выставачным палацы «Сяргі Кашгі», будзе прадстаўленая прадукцыя айчынных вытворцаў, дасягненні нашых навукоўцаў, значныя кніжныя выданні, знакавыя турыстычныя аб'екты краіны.

Адметна, што наша краіна ўжо мае паспяховы досвед арганізацыі Нацыянальнай выстаўкі-кірмашу айчынных тавараў у Туркменістане. Летась падобны праект рэалізаваны ў Ашхабадзе, у гандлёвым цэнтры «Чандыбіль». Па выніках працы экспазіцыі арганізатары і ўдзельнікі адзначалі высокую папулярнасць і запатрабаванасць тавараў беларускіх вытворцаў, а таксама зацікаўленасць наведвальнікаў нашай культурай.

Вось і сёлета ўвазе жыхароў і гасцей Ашхабада будзе прапанавана прадукцыя прадпрыемстваў Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь, навукова-тэхнічныя распрацоўкі ўстаноў адукацыі і НАН Беларусі, дасягненні ў сферы ваеннай прамысловасці, а таксама шырокага кола экспартна-арыентаваных прадпрыемстваў. У якасці арганізатараў экспазіцыі выступяць Беларуская гандлёва-прамысловая палата, міністэрствы замежных спраў, гандлю, прамысловасці, будаўніцтва і архітэктуры, аховы здароўя, інфармацыі, культуры, сувязі, сельскагаспадарчай прадукцыі, спорту, транспарту, энергетыкі. Па ўсім відаць, што ў Туркменістане будзе прадстаўленая Беларусь у мініяцюры, тут пакажуць усе нашы адметныя тавары, па якіх пазнаюць краіну далёка за яе межамі.

Не застанецца па-за ўвагай і культурны складнік. І калі матэрыяльны аспект, аб'ём тавараабароту паміж дзяржавамі можна дакладна вымераць, то роля ўзаемадзеяння нацыянальных літаратур, культур — невымерная. Але яна не менш каштоўная і значная, бо тут супраца вядзе толькі да ўзаемаўзбагачэння. І нам ёсць што паказаць сваім туркменскім сябрам! На выстаўцы будуць прадстаўленыя значныя выданні, што сталі пераможцамі Нацыянальнага і Міжнароднага конкурсаў «Мастацтва кнігі»; яны не толькі распавядаюць пра розныя аспекты сучаснага жыцця Беларусі, але і дэманструюць старажытныя традыцыі айчыннага кнігавыдання, закладзеныя амаль 500 гадоў таму нашым асветнікам і першадрукаром Францыскам Скарынам. Мы можам ганарыцца Мірскім і Нясвіжскім замкамі, якія ўваходзяць у скарбонку Еўрапейскай культуры. І гэта далёка не ўсё!

Паміж Беларуссю і Туркменістанам ужо склаліся добрыя сяброўскія адносіны ў галіне адукацыі, культуры, літаратуры, паспяхова рэалізаваныя многія праекты. Пра некаторыя з іх мы сёння распавядзём на старонках «ЛіМа».

Спадзяёмся, што правядзенне Нацыянальнай выстаўкі-кірмашу Беларусі ў Туркменістане стане штогадовай традыцыяй, а культурнае, эканамічнае сяброўства, распачатае экспазіцыяй, будзе доўжыцца многія гады і прыносіць плён абедзвюм дзяржавам.




Фота Анатоля Клешчука.

Помнік першадрукару Францыску Скарыну, усталяваны каля Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Скульптар Алесь Дранец.

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка выказаў спачуванні родным, блізкім і калегам народнага артыста СССР Эльдара Разанава ў сувязі з яго смерцю. «Эльдар Аляксандравіч пакінуў яркі след у гісторыі савецкага і расійскага кінематографа як выдатны рэжысёр і майстар камедыйнага жанру. Яго творы заваявалі сэрцы многіх пакаленняў гледачоў сваёй мудрасцю і добрым гумарам. Творчасць Эльдара Аляксандравіча добра ведалі і высока цанілі ў Беларусі, гледачы заўсёды з нецярпеннем чакалі яго новых фільмаў», — гаворыцца ў спачуванні.

✔ Кіраўнік дзяржавы павіншаваў народнага артыста РСФСР Генадзя Хазанава з 70-годдзем. «Шматграннасць таленту і адданасць прафесіі дапамаглі Вам стварыць на эстрадзе мноства запамінальных сатырычных характараў, паставіць арыгінальныя спектаклі і мініяцюры. Вашы яркія ролі здабылі папулярнасць у гледачоў і прызнанне прафесіяналаў», — адзначана ў віншаванні.

✔ Першы намеснік міністра замежных спраў Беларусі Аляксандр Міхневіч і Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка ўручылі медалі ЮНЕСКА «Віктор Гюго» і дыпломы ад генеральнага дырэктара ЮНЕСКА Ірыны Бокавай народным артыстам СССР і Рэспублікі Беларусь Тамары Ніжнікавай, Генадзю Аўсяннікаву. Таксама ўзнагарода прысуджана Расціславу Янкоўскаму. На цырымоніі ў Нацыянальным акадэмічным тэатры імя Янкі Купалы яе атрымала жонка народнага артыста — Ніна Чэішвілі (Янкоўская).

✔ З 28 лістапада па 6 снежня ў Іспаніі праходзяць гастролі балетнай трупы Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага Тэатра оперы і балета Рэспублікі Беларусь. Іспанскія гледачы ўбачаць адну з вяршынь музычнай класікі — балет «Жызэль» Адольфа Адана ў рэдакцыі вядомага расійскага харэографа Мікіты Далгушына. Паказы адбудуцца ў гарадах Мурсія, Алікантэ, Памплона, Лагронья і Тэраса.

✔ У Брэсцкім абласным грамадска-культурным цэнтры адкрылася персанальная выстаўка вядомага мастака-ювеліра, заслужанага дзеяча мастацтваў Рэспублікі Беларусь Мікалая Кузьміча «Кропка». Экспазіцыя прымеркавана да 65-годдзя майстра. Прадстаўлена каля 70 работ, у якіх у поўнай меры праявіўся талент аўтара аднойлетага Крыжа Еўфрасінні Полацкай.

✔ У сувязі з 25-годдзем міжнароднага фестывалю народнай музыкі «Звіняць цымбалы і гармонік» і ў мэтах яго шырокай прэзентацыі Беларускі фонд культуры сумесна з Белдзяржфілармоніяй пры падтрымцы Міністэрства культуры нашай краіны праводзяць 11 снежня ў Белдзяржфілармоніі гала-канцэрт лаўрэатаў фэсту, у якім возьмуць удзел лепшыя аматарскія калектывы і індывідуальныя выканаўцы, а таксама Нацыянальны акадэмічны народны аркестр Рэспублікі Беларусь імя І. Жыновіча.

## Юбілеі

# Павіншавалі «Нёман»

**Часопіс «Нёман» адзначыў сямідзесяцігоддзе! На святкаванні юбілею ў Грамадскім прэс-цэнтры Дома прэсы прысутнічалі міністр інфармацыі Лілія Ананіч, член Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Уладзіслаў Цыдзік, дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч, вядомыя пісьменнікі, сённяшнія супрацоўнікі рэдакцыі і шмат іншых шаноўных гасцей.**



*Стылістычны рэдактар Наталля Пархімовіч і рэдактар аддзела прозы Алег Ждан.*

*Фота Яўгена Пясецкага.*



*Міністр інфармацыі Лілія Ананіч віншуе галоўнага рэдактара «Нёмана» Аляксея Чароту.*

Падчас урачыстага пасяджэння былі агучаны віншаванні Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, намесніка Прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь Наталлі Качанавай, міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілії Ананіч, міністра культуры Рэспублікі Беларусь Барыса Святлова, міністра абароны Рэспублікі Беларусь Андрэя Раўкова, Прэзідыума Саюза пісьменнікаў Беларусі, акадэміка-сакратара Аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі Аляксандра Кавалені, старшыні Адміністрацыі Савецкага раёна горада Мінска Аляксандра Пазняка, Саюзаў пісьменнікаў Расіі, Азербайджана, Малдовы, беларускіх і замежных калег і аўтараў.

Колішнія галоўныя рэдактары «Нёмана» — Алесь Жук, Ніна Чайка, Міхась Пазнякоў, Алесь Бадак — узгадалі часы неверагоднай папулярнасці часопіса, калі яго тыраж дасягаў 180 тысяч (з іх на Беларусь прыпадала 13 — 18 тысяч). Ніна Чайка распавяла, як рэдагавала знакамітыя пераклады Габрыэля Гарсія Маркеса, і падкрэсліла вялікую адказнасць літаратуры перад гісторыяй, якую «перапісваюць як толькі могуць, а вось літаратуру перапісаць нельга. Літаратура распавядае пра свой час шчыра і дакладна».

У гонар часопіса і сённяшніх «нёманцаў» прагучала нямала добрых слоў і ўрачыстых віншаванняў. Старшыня Цэнтральнага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў культуры Наталля Аўдзеева расказала, што выбрала філалагічную спецыяльнасць дзякуючы «Нёману» і іншым літаратурным часопісам, якія дапамаглі сфарміраваць чытацкі густ.

Начальнік упраўлення інфармацыі галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы Міністэрства абароны палкоўнік Уладзімір Макараў адзначыў, што «Нёман» робіць вялікі ўнёсак у патрыятычнае выхаванне і змагаецца за праект чалавека супраць нетакратыі.

Намеснік галоўнага рэдактара газеты «СБ. Беларусь Сегодня» Галіна Тарапецкая пажадала супрацоўнікам рэдакцыі невычэрпнага таленту, заўсёднага творчага росту, таленавітых аўтараў, зацікаўленага, удзячнага чытача. Сённяшнія і былыя супрацоўнікі былі ўзнагароджаны граматамі, атрымалі падарункі.

**Янка НАТАВЕЦ**

## За падзеяй

# Лёс класіка

**Міжнародныя Сіманаўскія чытанні — культурная традыцыя Магілёўшчыны. Упершыню яны адбыліся ў 1980 годзе, праз год пасля смерці знакамітага рускага савецкага пісьменніка Канстанціна Сіманава.**



*З рук старшыні СПБ Мікалая Чаргінца пасведчанне да ганаровага знака «За вялікі ўклад у літаратуру» атрымлівае старшыня Смаленскай абласной арганізацыі Саюза пісьменнікаў Расіі Алег Дараган.*

Сіманаўскія чытанні звязаны з падзеямі пад Магілёвам, на Буйніцкім полі, у пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Знаходзячыся ў акружэнні, у жорсткіх баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, савецкія воіны разам з апалчэнцамі ўтрымлівалі Магілёў («Днястроўскі рубеж») да канца ліпеня 1941-га. Пра бой на Буйніцкім полі, які адбыўся 12 ліпеня 1941 года, расказаў у сваіх публікацыях ваенны карэспандэнт і пісьменнік Канстанцін Сіманаў. Паводле запавету К. Сіманава, яго прах развеяны над Буйніцкім полем пасля смерці творцы ў верасні 1979 года.

Пасяджэнне «круглага стала» адбылося ў Магілёўскім дзяржаўным універсітэце імя Аркадзя Куляшова. Пра жыццё пісьменніка і значэнне яго творчасці вялі гаворку беларускія і расійскія літаратары, грамадскія дзеячы, ветэраны, навукоўцы.

Перад прысутнымі выступілі таксама першы сакратар Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Рэспубліцы Беларусь, выконваючы абавязкі кіраўніка прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў нашай краіне Віктар Мічурын, дэпутат Смаленскай абласной Думы Ніна Кулікоўскіх, старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец, старшыні Магілёўскага і Віцебскага абласных аддзяленняў гэтага творчага аб'яднання Уладзімір Дуктаў і Тамара Краснова-Гусачэнка. Госці Магілёва і моладзь абласнога цэнтра ўзялі ўдзел у літаратурна-музычным вечары «Шчыра Ваш, Канстанцін Сіманаў…», які адбыўся ў кінатэатры «Радзіма». Расійскія пісьменнікі сустрэліся з прыхільнікамі іх творчасці ў Магілёўскай абласной бібліятэцы імя У. І. Леніна. Літаратары наведалі Магілёўскі дзяржаўны універсітэт імя Аркадзя Куляшова і Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт харчавання. У Магілёўскім дзярж-універсітэце імя Аркадзя Куляшова старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец правёў шчырую размову ў асяроддзі студэнцкай літаратурнай гасцёўні.

Сёлета да літаратурных чытанняў Смаленская абласная арганізацыя Саюза пісьменнікаў Расіі, Магілёўскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, Магілёўскае гарадское аддзяленне рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Рускае таварыства» пры падтрымцы Пасольства Расійскай Федэрацыі ў Беларусі правялі Міжнародны літаратурны конкурс на лепшыя творы малой прозы, паэзіі і самы ўдалы пераклад, прысвечаны 100-гадоваму юбілею Канстанціна Сіманава і 70-годдзю Вялікай Перамогі. Конкурс праходзіў з 1 ліпеня па 1 лістапада, у ім узялі ўдзел больш як 500 паэтаў, празаікаў і перакладчыкаў. Сярод пераможцаў многа грамадзян Расійскай Федэрацыі.

Удзельнікі чытанняў наведалі мемарыяльны комплекс «Буйніцкае поле», усклалі кветкі да каменя Канстанціна Сіманава.

**Уладзімір САСНОЎКІН**

# Акцёр, які піша

**Творчая сустрэча з вядучым акцёрам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Максіма Горкага, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь, членам Саюза пісьменнікаў Беларусі, паэтам і празаікам Андрэем Душачкіным «Артыст, паэт, рамантык» адбылася ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа ў межах чарговага пасяджэння клуба творчых жанчын «Спадарыня».**



Фота Міколы Ліпніка.

Прамаўляе Андрэй Душачкін.

З прывітальным словам да прысутных звярнуліся старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў, дырэктар музея Зінаіда Камароўская і намеснік старшыні Беларускага саюза жанчын Святлана Сітнікава. З. Камароўская зачытала радкі з паэмы Якуба Коласа «Сымон-музыка», прысвечаныя жанчынам, і падарыла клубу «Спадарыня» факсімільнае выданне гэтага твора.

У тэатры імя Максіма Горкага Андрэй Душачкін працуе з першага дня сваёй прафесійнай дзейнасці. Кіраўнік клуба «Спадарыня» Тамара Бунта распавяла, што А. Душачкін нарадзіўся ў акцёрскай сям'і: маці — народная артыстка СССР, актрыса таго ж тэатра Аляксандра Клімава, бацька — выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, артыст Андрэй Душачкін-Карсакоўскі. Падчас імпрэзы публіка пабачыла фотаздымкі з сямейнага архіва Андрэя Андрэевіча і відэасюжэт пра яго маці — Аляксандру Клімаву.

Галоўны герой сустрэчы падзяліўся ўспамінамі пра бацькоў і дзяцінства. Тамара Бунта прачытала вершы-прысвячэнні А. Клімавай і А. Душачкіну, напісаныя айчыннай паэтэсай Валянцінай Паліканінай. Слова меў сябар сям'і, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Новая Немига литературная» Анатоль Аўруцін. А ключавым акордам імпрэзы сталі вершы Андрэя Душачкіна ў аўтарскім выкананні.

**Яна ЯВІЧ**

*Пастскрыптум*

# Ключ заўсёды побач

**Імкненне зафіксаваць пераходныя станы прыроды, змены настрою, характво натуральных прыродных форм — вось што аб'ядноўвае зусім розных, але ў той жа час вельмі блізкіх па светаўспрыманні творцаў — жывапісца Віктара Каралёва і скульптара, выкладчыка гімназіі-каледжа мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка Паўла Ляонава.**

Для іх прырода — штосьці большае, чым асяроддзе. Мастацкая выстаўка «Заўсёды побач» нядаўна завяршылася ў галерэі «Мастацтва». Ключом да разумення работ сталася сама назва выстаўкі.

Жывапісец Віктар Каралёў, чые работы знаходзяцца ў музеях Беларусі, Расіі, а таксама ў прыватных калекцыях у іншых краінах, любіць пісаць з натуры. Ён быццам агучвае святлом сваіх колераў такія знаёмыя, любыя кожнаму з нас куточкі прыроды. У зімовых краявідах па-майстэрску спалучае халодную колеравую гаму і прыглушаныя цёплыя адценні, на дзіва мяккія і спакойныя. У палатне «Зімовы вечар» апошнія сонечныя промні падсвечваюць снег цёплым жаўтаватым святлом… Зіму пісаць няпроста, бо трэба «злавіць» яе непаўторныя рэфлексы. Зіма яркая, але не пярэстая, як, напрыклад, залатая восень (на выстаўцы можна было пабачыць і паэтычныя восеньскія пейзажы).

«Заўсёды побач» — калазварот пораў года, станаў надвор'я, павольнага пераходу ад раніцы да ночы. Мастак цудоўна адчувае і перадае гарманічную ўзаемасувязь і цэласнасць прыроды.

Карціна «Рака Чарнушка» Віктара Каралёва і скульптура «Зімовая рака» Паўла Ляонава — як адзін твор: жоўтым лісцем заканчваецца жывапіс, які «жывым» выдыхам прыроды працягвае сваё жыццё ў скульптуры з каменю, дрэва і мармуру. Здаецца, гэта зусім розныя матэрыялы, якім цяжка ўзаемадзейнічаць, але ў скульптуры «Зімовая рака» іх яднае вобраз, таму кожны матэрыял мае свой «пасыл». Скульптар даказаў: гэтую імклівую стыхію можна ўвасобіць у цвёрдых формах, якія здольны ўнесці ў твор новы сэнс.

Скульптурныя творы лаўрэата спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі Паўла Ляонава вельмі эмацыянальныя і адначасова стрыманыя, хаця ў іх шмат цікавых, вобразных дэталяў. Так, бронзавы «Матылёк» майстра лёгкі, здаецца, вось-вось узляціць. Але на ягоным крыльцы, як рана, — чалавечы след. Гэта і ёсць майстэрства — перадаць лёгкасць праз грубыя, цвёрдыя формы бронзы і каменю. І нагадаць пра тое, што трэба быць абачлівым: вакол — жыццё… Скульптура «Бярозавы сок» зробленая з «цёплага» матэрыялу — шамоту, які дазваляе ўспрыняць бярозу на дотык. Аўтар, здаецца, фізічна адчувае і перадае той боль, які мы ненаўмысна наносім прыродзе.

Гэтае вострае суадчуванне таго, што нас акаляе, Павел Ляонаў перадаў і сваім вучням, сярод якіх ужо некалькі стыпендыятаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі і нават ягоныя калегі.

Асабліва ўразілі творы Віктара Каралёва «Дзмітрый» і «Партрэт». Вобразы літаральна выпраменьваюць жывое святло. Увогуле, мастак здольны «зафіксаваць» не толькі прыроду, але і тых, хто яму дарагі, хто побач, хто натхніў на творчасць. Дарэчы, Віктар Каралёў выгадаваў траіх дзяцей, цяпер гадуе ўнукаў, якія таксама шчыра захапляюцца мастацтвам. А Павел Ляонаў, ягоны зяць, — бацька трох дачушак… Дынастыя Каралёвых-Ляонавых працягваецца.

**Вольга РОПАТ**

# Творчыя знаходкі

**Беларускі спектакль увайшоў у пяцёрку лідараў на ІІ Маладзёжным тэатральным форуме краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі.**

У конкурснай праграме ўдзельнічалі 13 пастановак ад маладых аўтараў з розных краін свету, а ацэньвала іх прафесійнае журы. Семінары і майстар-класы, спадарожныя асноўнай праграме, стварылі цудоўную пляцоўку для абмену ідэямі, знаёмстваў і творчых міжнацыянальных зносін.

Усе праблемы, якія былі закранутыя ў спектаклях, прычым няважна, ствараліся яны паводле народных паданняў альбо твораў сярэднявечча, выглядалі вельмі актуальна для сучаснага грамадства. Прычым пададзены былі без упрыгажэння, па-філасофску, месцамі з гумарам, але заўсёды лаканічна і арыгінальна.

Які ж з нашых спектакляў апынуўся ў ліку пераможцаў? Трагіфарш «Гамлет» рэжысёра Ігара Казакова і Магілёўскага абласнога тэатра лялек стаў уладальнікам бронзавай узнагароды форуму. А вось першае месца дасталася пастаноўцы «Чысты розум / Укусі мяне» кампаніі Nii і Новага тэатра з эстонскага горада Тарту. Першая прэмія і ганаровая статуэтка ў выглядзе залатога парасоніка былі ўручаны рэжысёру Рэнатэ Кеэрду. Другое месца заняў спектакль Станіслава Жыркова «Каханне людзей» ад Кіеўскага акадэмічнага Маладога тэатра па п'есе беларускага драматурга Дзмітрыя Багаслаўскага. Ён жа, дарэчы, быў узнагароджаны спецыяльным прызам за рознабаковую тэатральную адоранасць.

На форуме былі і іншыя намінацыі. Так, сімпатыі крытыкаў заслужыла пастаноўка «Жанчыны Троі» Тэатра Каралеўскага квартала з Тбілісі. Рэжысёр — Дата Тавадзэ.

Нагадваем, што ІІ Маладзёжны тэатральны форум краін Садружнасці, Балтыі і Грузіі праводзіўся пры падтрымцы Міжнароднай канфедэрацыі тэатральных саюзаў, Міждзяржаўнага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь. У ліку арганізатараў таксама — Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт і Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Васількі на Елісейскіх палях

Упершыню павільён беларускіх мастакоў і скульптараў быў прадстаўлены на экспазіцыі ў знакамітым выставачным комплексе "Гран Пале" на Елісейскіх палях Парыжа», паведамляюць прадстаўнікі Пасольства Беларусі ў Францыі.

Французскі вернісаж «*Art Capital*», паўнапраўнымі ўдзельнікамі якога сталі адзінаццаць майстроў з Беларусі, праходзіць ужо на працягу 60 гадоў пад патранатам Прэзідэнта Францыі. На гэты раз пад дахам гістарычнага будынка сабраліся каля 2000 мастакоў і скульптараў з больш чым 40 краін свету.

У ліку творцаў нашай краіны, з якімі давялося пазнаёміцца французам, адкрыўшы для сябе багацце беларускага мастацтва, — Віктар Альшэўскі, Юрый Анушка, Ганна Белавусава, Алена Вентрыён-Макарэвіч. Прадстаўлены таксама работы Ларысы Журавовіч, Максіма Петруля, Сяргея Парцянкова, Паўла Семчанкі, Аляксандра Слепава, Алеся Фалея, Валянціны Шоба. Штогод выстаўку «*Art Capital*» наведваюць больш як 40 тысяч гледачоў.

Падчас цырымоніі адкрыцця выстаўкі пасол Беларусі ў Францыі Павел Латушка адзначыў, што беларуская дэлегацыя майстроў прадстаўляе як сталіцу краіны, так і ўсе яе рэгіёны. Ён падкрэсліў важнасць экспанавання твораў беларускай школы выяўленчага і манументальнага мастацтва на адной з самых прэстыжных выставачных пляцовак у свеце і выказаў надзею, што гэтая практыка будзе мець працяг.

Пасол Беларусі таксама правёў перамовы з прэзідэнтам Салона малюнка і выяўленчага мастацтва на вадзе Катрын Жаг, а таксама з віцэ-прэзідэнтам аднаго з самых прэстыжных выставачных праектаў у Францыі «Восеньскага салона» Жанам Дэвілем. Падчас сустрэч абмяркоўваліся перспектывы будучых сумесных праектаў у сферы выяўленчага і манументальнага мастацтва.

Беларускі павільён у «Гран Пале» быў арганізаваны Пасольствам Беларусі ў Францыі пры садзейнічанні Нацыянальнага мастацкага музея Рэспублікі Беларусь, Культурнага цэнтра Беларусі ў Францыі і ААТ «Прыёрбанк», а таксама Аркадзя Валадося, беларуса, які пастаянна жыве ў Францыі.

**Марыя ВОЙЦІК**

**Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі запрашае:**

**4 снежня** — *на конкурс мастацкага чытання твораў беларускіх і рускіх паэтаў сярод работнікаў органаў пракуратуры г. Мінска. Мерапрыемства адбудзецца ў актавай зале Беларускага ўніверсітэта культуры і мастацтваў (вул. Рабкораўская, 17, аўд. 123). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**7 снежня** — *у Школу юнага літаратара пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5 — 309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**8 снежня** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Тамары Бунта «Белая аблачынка», якая адбудзецца ў дзіцячай бібліятэцы № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**8 снежня** — *на прэзентацыю кніг серыі «Бібліятэка Саюза пісьменнікаў Беларусі» — Яўгена Хвалея, Змітрака Марозава і Магамеда Ахмедава. Імпрэза пройдзе ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Янкі Купалы (вул. В. Харужай, 16). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**9 снежня** — *на літаратурны праект «Творчае сяброўства», у межах якога пройдзе паэтычна-музычная вечарына «Маё багацце — шум бяроз», з удзелам паэтаў Міхася Пазнякова, Анатоля Аўруціна і артыста тэатра і кіно Сяргея Краўца. Імпрэза ладзіцца ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**10 снежня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Алінай Легастаевай і Валерыем Чудавым, якая адбудзецца ў Мінскім гарадскім навучальна-аздараўленчым цэнтры «Лідар» (г. п. Ждановічы) у межах адкрыцця творчай галерэі «Моладзь Беларусі». Пачатак а 15-й гадзіне.*

**10 снежня** — *на юбілейны творчы вечар Жаны Мілановіч. Мерапрыемства пройдзе ў публічнай бібліятэцы № 5 (Казлова, 2). Пачатак у 17.30.*

**Маляўнічым, шматколерным дыванам зіхаціць-пераліваецца паэтычнае слова Туркменістана. У палітры вобразаў — і пяскі пустыні, і прастор бяскрайняга стэпу, і высокія снягі, і развітальны палёт жураўлёў…**
**Прапануем чытачам «ЛіМа» пазнаёміцца з вершамі туркменскіх паэтаў Бердыназара Худайназарава, Керыма Курбанняпесава, Агагельды Аланазарава і Атамурада Атабаева, перастворанымі па-беларуску.**

Бердыназар
ХУДАЙНАЗАРАЎ

## Хлеб сорак трэцяга года

*Да парога зыбучыя рушаць пяскі.*
*Хлеб ужо не пякуць, печ пагасла.*
*Спаражнелі, абмяклі даўно бурдзюкі,*
*маслабойка не помніць пра масла.*

*Не скрыпіць у самотнай цішы жарнавік,*
*толькі чутны дзяцей згаладалы усклік:*
*«Дайце лусту!..»*
*Галота худая.*
*«Дайце лусту!..»*
*І маці — рыдае.*

*Бадыллё падступіла да самай мяжы,*
*пройдзе сполашна вецер па лісці.*
*За вайну у жанчын паржавелі нажы,*
*што лапшу наразалі калісьці.*

*Згас ачаг —*
*ён агніста калі шугане?*
*Чарната сажай сцятага зводу.*
*Самым цяжкім і чэсным ты быў*
*для мяне,*
*горкі хлеб сорак трэцяга года.*

*Мяне ветры хісталі,*
*ад спёкі я слеп,*
*секла сіберам снежным пустыня…*
*Будзь сумленнем маім, сорак трэцяга*
*хлеб,*
*калі раптам падступіць гардыня.*

Керым
КУРБАННЯПЕСАЎ

## Ысманак

*Пад цяжарам гнуцца сваім каласы.*
*Ды ўбачыў сцяблінку я ў промнях расы —*
*Падумаў: сарваць пустазелле мне час,*
*Каб большаў зярнят залацісты запас.*
*Руку пацягнуў да сцябліны — зламаць*
*Ці выцягнуць з корнем з угрэтай раллі.*
*«Ды гэта ж аб ёй маці стала*
*казаць…» —*
*Як быццам апеклі далонь вугалі.*
*Дзяцінства галоднага помняцца дні,*
*Я добрую гэту траву пазнаю —*
*Варылася часта яна на агні,*
*А смерць зноў чакала здабычу сваю.*
*Адзінаю стравай ты быў, ысманак!*
*Ты нас ратаваў ад бяды, ысманак!*
*Над варывам гэтым матуля не раз*
*Схіліўшыся, нам гаварыла вось так:*
*«Вайна і бяда не адужаюць нас, —*
*Ты будзь ратаўніцай, трава ысманак!»*
*Нам гэту траву даравў скрутны лёс,*
*Каб горкае гора змаглі абысці.*
*Разбеглася жыта да вышы нябёс…*
*І ты, ысманак мой,*
*Без крыўды расці!..*

***

*Паветра палала. Аблокі раслі*
*Недзе далёка, на ўскраі нябёс.*
*Людзі аб ветры й гадаць не маглі,*
*Каб прахалоду з нагор'яў прынёс.*

*Раптам наводдалі*
*Попелам шэрым*
*Ўкрылася сонца няшчаднага ззянне.*
*І ўскалыхнула агонь атмасферы*
*Свежага ветру жывое дыханне.*

*Людзі ўбягалі ў дамы і глядзелі*
*Ў бок скутых гор,*
*дзе над пікамі неба.*
*Біліся дрэвы,*
*як быццам хацелі*
*Вырваць карэнне*
*з усохлае глебы.*

*Смерч. Захіналі*
*мужчыны сабою*
*Вокны, каб дзеці*
*не бачылі буры.*
*І пасміхаліся,*
*каб супакоіць.*
*Толькі іх выгляд*
*і зараз быў хмуры…*

*Падалі дрэвы са*
*стогнам і трэскам.*
*Білася ў сутаргах*
*чэзлае голле.*
*Згуба прайшла*
*па палях,*
*пералесках,*
*І падалося пустыняй*
*Ваколле.*

*Бура суціхла.*
*Мы выйшлі, і бацька,*
*Свет азіраючы,*
*вымавіў:*
*«Дрэвы,*
*Каб больш малыя*
*маглі утрымацца,*
*Леглі заступна пад*
*ветрам залевы…»*

**З туркменскай.**
**Пераклад Міколы МЯТЛІЦКАГА**

Агагельды
АЛАНАЗАРАЎ

## Туркменістан

*Мінулае тваё жыве ўва мне,*
*І гонар твой заўжды жыве ўва мне,*
*І б'юцца сэрцы продкаў у маім сэрцы —*
*Іх боль і радасць — ўсё жыве ўва мне.*
*Твой лёс шчасліві цешыцца ўва мне,*
*І дзень наступны твой ўва мне трапеча.*
*Твае зямля, вада і песень хор*
*Жывуць, звіняць і льюцца ува мне.*
*І што б ні здарылася — буду я з табой,*
*У тваёй крыві навек я растварыўся —*
*Жыву ў табе, а ты ўва мне.*

***

*Вечар. Мы разам у лодцы з каханай*
*Пераплываем Мургаб у цішыні.*
*З мілай, нябёсамі мне абяцанай,*
*Вечна ў памяці шчасныя дні.*

*Пэўна, прырода ёй шчодрай рукою*
*Пекнасць адмерыла аж да краёў…*
*Дзіўнай пяшчотай, чароўнай журбою*
*Свецяцца вочы да ранку ізноў.*

*Толькі глядзець на яе застаецца —*
*Вецер вяслуе, і я разам з ім.*
*Хустка блакітная вабіць-віецца*
*Побач са мною і ў сэрцы маім.*

## Хлопчык

*Мацярынскі падол для спакою*
*Цэрабіць у маленькіх руках.*
*Шолах траў, птушак спеў за ракою —*
*У вачах і цікаўнасць, і жах.*

*Свет — бы зорка у небе высозным,*
*І пытанні адно за адным…*
*Ён глядзіць прад сабой так сур'ёзна,*
*Як араты за плугам старым.*

***

*Распранулася жэстам смелым*
*Каля дзікай грады каменнай.*
*Асвяціла ядвабам цела*
*Берагі і ваду імгненна.*

*«Да мяне ідзі, дарагая», —*
*Зваў прыбой яе шэптам ціхім.*
*Прыгажосць у свеце такая —*
*Не спаткала б якога ліха!*

*Ах, каб мець мне яе за жонку! —*
*Нат саромлюся думак сваіх.*
*Блікі сонца і плёскат звонкі…*
*Пакажыся хаця б на міг!*

*Авалодала раптам жаданне*
*На сябе выліць мора ўсё.*
*Ад салодкіх пакут ратаванне*
*Не знайсці. Бо ў каханні — жыццё.*

**З туркменскай.**
**Пераклад Юліі АЛЕЙЧАНКА**



Атамурад
АТАБАЕЎ

## Жураўлі Харасана

*Праляцяць жураўлі Харасана,*
*Праляцяць, бы пахмурныя дні.*
*Ад халоднага смутку-туману*
*Як падалей памкнуцца яны.*

*Аглядаючы стэп апусцелы,*
*Пранясуцца, нібыта ўва сне.*
*І душа, быццам птушка ўсім целам,*
*Незнарок страпянецца ўва мне.*

*Як жа так — сумаваць без прычыны?*
*І ці можна расстацца навек,*
*Назіраючы з ціхай нізіны*
*Іх імклівы, размашысты бег?*

*Каракумы! Па сумных сцяжынах —*
*Пажаўцелыя травы твае.*
*І не стрымлівай крыкаў птушыных!*
*Жураўлі прыляцяць да цябе.*

*Хто смяяўся — той вернецца з плачам,*
*Сумаваў хто — той прыйдзе ў слязах.*
*Бачу далечы водсвет — няйначай —*
*У пустых паднябесных шляхах.*
*Уздыхае самотная старасць,*
*Ды за птушкамі ёй не ляцець.*
*Раз'яднанаму свету не марыць —*
*На высокае брацтва глядзець,*

*На туманны і лёгкі малюнак,*
*На вялікі і велічны стыль…*
*«Хутка прыйдзе зіма!» — і па струнах*
*Спевы коцяцца ў змрочную быль.*

*Толькі шчыры аб страце сумуе,*
*А няшчырай душы ўсё адно.*
*Да вясны жураўлёў не пачую,*
*Да вясны зачыняю акно.*

*Толькі дзеці крычаць бесклапотна.*
*Прабягаюць, нясуцца палі.*
*Клін апошні марудзіць маркотна —*
*На чужыну ляцяць жураўлі.*

*Дрэвы ў смутку стаяць і скідаюць*
*Харастко сваё: золата, медзь.*
*Мабыць, тое — няўжо?! — адчуваюць,*
*Што не можам і мы зразумець?*

*І сланечнік чалмою ківае,*
*Сузіраючы пільна палёт —*
*Назаўжды жураўлёў адпускае,*
*Неадрыўна глядзіць на захад.*
*Ці то з цела душа адлятае,*
*Ці то хіліцца сонца да сну —*
*Жураўлі Харасан пакідаюць,*
*Аддаляюць на крылах вясну.*

## Вяртанне

*Трыццаць год чакала маладая.*
*Як чакала — ніхто не знае.*
*А калі ёй стала пяцьдзясят,*
*То прысніла, што прыйшоў салдат.*

*І яна спытала: — Гэта ты?*
*— Так! — салдат азваўся з пустаты.*
*І пасунулася ў сне нявеста*
*І салдату вызваліла места.*

*Толькі з глузду сон яе не звёў.*
*Ды ці можна так чакаць начамі,*
*На пасцель каб старасці ўзышоў*
*Прывід юны з чыстымі вачамі?!*

## Паганае вока

*Зірнуў я: вось вялізная чынара,*
*Што не баялася вякамі бур.*
*Вяршыняю сыходзіць у лазур,*
*А каранямі ўглыб зямнога шара.*
*Але ад часу высахла чынара.*
*Зірнуў я: вось вялізная рака,*
*Народжаная чыстымі снягамі.*
*Замкнёная крутымі берагамі.*
*Віруе скрозь гісторыю ў вяках.*
*Шкада, што перасохла і рака.*

*А сёння пад наглядам пільным я:*
*З мінулага і будучага дня.*
*Не быў я ні чынарай, ні ракою,*
*Я ў свеце аднаго хацеў: спакою.*

*І ззаду вока, і перада мною,*
*Не разбяру: паганае — якое?*

## Тры жанчыны

*Кахаю жанчын трох — адзіна*
*Трыма надзяліў мяне бог.*
*Мужчына — яшчэ не мужчына,*
*Як Вышнім не дадзена трох.*

*З іх першую сам я прыдумаў,*
*Пабачыўшы першую ў сне.*
*Другая пакуль толькі ў думах,*
*А трэцяя следам ідзе.*

**З туркменскай.**
**Пераклад Яны ЯВІЧ**

Агагельды АЛАНАЗАРАЎ

# Уман

## Урывак з рамана «Цюлень»



*Неба скажа, зямля скажа,*
*скажа вецер…*

**Махтумкулі**

*У каханні, як і на вайне, усё магчыма.*

**Нямецкая прымаўка**

Яшчэ з паўгода таму старому Балкану, які ўжо даволі даўно жыве на свеце, усё навокал уяўлялася светлым і трывалым. Побыт у яго быў наладжаны, надзейным падмацункам для іх са старой пенсій была рыба, якую ён час ад часу сеткай выцягваў з мора, ды птушкі, якіх здабываў на паляванні. Карацей кажучы, жылі яны з жонкай па-старэчы ціха і аднастайна, не ведаючы асаблівых узрушэнняў.

Стары Балкан быў з тых людзей, што прайшлі ўсю вайну 1941 — 1945 гадоў, вынеслі на сваіх плячах усе цяжкасці ды нягоды і каму пашчасціла ацалець у віхуры сусветнага пажару. Ён быў салдатам, які дажыў да Вялікай Перамогі, здабытай з такімі нечуванымі стратамі. У тыя дні, калі савецкія войскі наступалі на Берлін — апошні прытулак фашыстаў, — камандзір батальёна капітан Балкан Чапакаў быў адным з тых туркменскіх хлопцаў, адважных воінаў-танкістаў, якія бралі ўдзел у цяжкіх баях… Стары Балкан быў чалавекам стрыманым, цярплівым, ён умеў задавальняцца малым і заўсёды быць удзячным лёсу. Звычайна такія людзі ні ў чым не ведаюць патрэбы, а калі ім чаго і нестае, яны не перажываюць гэта так востра, як маладыя. Да таго ж, калі ў цябе ёсць старая, якая дагледзе цябе — а ты ўжо зусім не малады, а калі па шчырасці, дык і зусім стары, — у такім выпадку старасць здаецца не такім ужо і кепскім часам у тваім жыцці. Стары даволі даўно пераканаўся ў гэтым на ўласным досведзе. Калі ўжо на тое пайшло, ён даўно паверыў, што вось так і будуць яны са старой да канца дзён жыць у родным гняздзе, з якога выправіліся ў свет і паляцелі ў розныя бакі іх дзеці-птушаняты. Улічваючы жончын стан здароўя і ўзважваючы свае ўласныя сілы, стары зрабіў выснову, што да завяршэння зямнога шляху яшчэ далёка.

Але пасля здарылася так, што прыйшла хвароба і апошняя мяжа жыцця раптам імкліва наблізілася і здалася не такой ужо і далёкай. На самым пачатку вясны нечакана захварэла Уман, Балканава старая. У першыя дні яна трымалася рукамі за грудзі, казала, што там у яе нешта баліць, як ад апёку. З цягам часу ёй усё цяжэй было займацца штодзённымі хатнімі справамі, а потым яна і ўвогуле перастала выходзіць з хаты. Спачатку наракала на сезонныя прастуды, на нездароўе, якое бывае пры змене надвор'я і перападах тэмпературы, верыла, што хвароба адступіцца гэтак жа нечакана, як і прыйшла, што праміне тыдзень-другі, і яна, як і раней, вернецца да сваіх абавязкаў хатняй гаспадыні. Уласна кажучы, так заўсёды раней і было. Але гэтым разам Уман памылілася. Мінуў тыдзень, дзесяць дзён, а тады і месяц, а яна ўсё не магла паздаравець, не магла адужаць хваробу. Было відавочна, што хвароба не мае нічога агульнага з нейкай там прастудай і нездароўе зусім няпростае. Але нават і тады Уман, каб не палохаць старога і без дай прычыны не турбаваць яго, як магла хавала свой стан, аддаючыся горкім разважанням: «Вох, стары, падобна да таго, што па мяне прыйшоў-такі Азраіл, які раней ці пазней прыходзіць да ўсіх. Але што ж будзе з табою, калі я адыду, а ты застанешся адзін у пустым доме? Добра, калі дзеці забяруць цябе да сябе…» Няўзабаве Уман не магла ўжо рабіць нават тыя простыя хатнія справы, якія заўсёды былі для яе лёгкімі і якія заўсёды яна рабіла мімаходзь. Цела перастала слухацца яе, і старая больш не ўставала з ложка.

Як ні трымалася Уман, як ні хавала сваю хваробу, але заставацца побач з ёю і не заўважыць яе пакут было немагчыма. Нягледзячы на ўзрост, Уман была жанчынай яшчэ даволі дужай, і немалады яе твар заставаўся прыгожым. Зусім нядаўна яна магла рабіць далёкія вандроўкі, ехаць туды, куды ёй захочацца. Але хвароба даволі хутка паказала сваю ўладу. Цяпер і стары капітан зразумеў, што яго жонка не проста натурыцца, як часам тое робяць жанчыны, а жыццё пачало змагацца са смерцю.

Нягледзячы на тое, што дом старых на самым беразе мора быў пабудаваны гадоў дваццаць, а то і трыццаць таму, ён быў адным з найлепшых у наваколлі. Гэты дом будаваў сын, каб мець магчымасць кожнае лета з жонкай і дзецьмі прыязджаць да бацькоў на адпачынак. Пасля заканчэння нафтавага інстытута ў Маскве ён працаваў па размеркаванні ў Цюмені, а пасля яго запрасілі на добрую пасаду ў Небітдаг. Апрача сына ў старых былі яшчэ дзве дачкі, старэйшая з якіх была ўжо жанчынай сталага веку і мела не толькі сыноў, але і ўнукаў. Малодшая ж дачка пайшла замуж у суседняе селішча і таму часцяком наведвала старых, цікавячыся іхнімі справамі і жыццём. Гледзячы на малодшую, старая думала: «Вось каб і астатнія жылі паблізу, яны б таксама штодзень забягалі да нас». Яна сумавала па сваіх дзецях.

Радзей за ўсіх сюды прыязджаў сын-нафтавік — быў ён надта ж загружаны працай, і прыязджаць часцей у яго не атрымлівалася. Калі рабілася асабліва моташна, старыя самі выпраўляліся да сына, каб пабачыцца з ім. Затое для ўнукаў дом дзядулі і бабулі быў надта ж жаданым — яны прыязджалі сюды на канікулы і жылі да таго часу, пакуль іх не забіралі бацькі. Перад ад'ездам яны заўсёды моцна абдымалі старых і абяцалі прыехаць на наступны год: «Мы абавязкова прыедзем яшчэ, дзядуля, мы прыедзем зноў, бабуля!»

Час няўхільна рухаецца наперад, і вось ужо і ўнукі маюць свае сем'і. Пару гадоў таму пайшла замуж і малодшая ўнучка, якая з маленства гадавалася ў старых, — з таго дня дом і зусім апусцеў, як узімку робіцца пустым марское ўзбярэжжа. Такі закон прыроды, і з ім не паспрачаешся: птушаняты сталеюць і адлятаюць з роднага гнязда, а тым, хто іх гадаваў, не застаецца нічога іншага, як зычыць сваім атожылкам здароўя і шчасця, дзе б яны ні былі.

З таго часу і засталіся старыя ўдваіх. Нечаканая бяда, што падпільнавала жанчыну, была пачаткам нялёгкага і трывожнага жыцця і для Уман, і для старога капітана. Стары пачаў з таго, што паказаў жонку вясковаму доктару, пасля павёз яе да гарадскіх эскулапаў. Не жадаючы турбаваць дзяцей, мітусіўся, паўсюдна бегаў сам, вазіў яе на сваёй машыне. Па-ранейшаму жартаваў: «Сядай, жонка, побач, хай усе зайздросцяць нам, прымаючы за маладзёнаў». Жартаваў, успамінаючы шчаслівыя дні, якія ўжо засталіся ў мінулым, і намагаючыся палепшыць настрой хворай. Але як нельга схаваць хваробу ад доктара, так нельга схаваць яе ад дзяцей.

Аднойчы ўнук Аман, які па справах апынуўся ў селішчы, адразу ж захацеў наведаць дзядулю з бабуляй. Але дзверы былі замкнутыя. Ён даznаўся, што бабуля больш як тыдзень ляжыць у бальніцы, і паспяшаўся туды. У палаце Аман убачыў, што бабуля яшчэ больш схуднела і састарэла, а калі яны абдымаліся, з вачэй старой пакаціліся слёзы. Уман узрадавалася, як дзіця, — ёй падалося ў гэты момант, што яна ўбачыла свайго абаронцу. На наступны дзень тэрмінова прыехалі сын з нявесткай. Увага дзяцей і ўнукаў усцешыла старую і разам з тым абудзіла жаданне як найхутчэй устаць на ногі, яшчэ пажыць з роднымі і дарагімі людзьмі. Праз колькі дзён Аман павёз бабулю ў Ашхабад.

Тут старую ўзялі пад апеку найлепшыя дактары. Праз нейкі час дзякуючы іхнім намаганням і клопату родных старая пачала папраўляцца — у яе палепшыўся колер твару, вочы зрабіліся яснейшымі і весялейшымі. Адчуваючы, як з кожным днём да яе вяртаюцца сілы, Уман выпісалася з бальніцы з жаданнем як мага хутчэй вярнуцца разам са старым дадому, верачы, што з часам, калі з яе цела павывятрываецца пах лекаў, хвароба канчаткова адпусціць яе.

Пасля вяртання з ашхабадскай бальніцы Уман цягам трох-чатырох месяцаў пачувалася няблага. Яна зноў пачала выходзіць з дому і патроху займацца звыклымі хатнімі справамі. Родным здавалася, што стан яе паляпшаецца дзень пры дні, і яны паверылі, што нарэшце яна зрабілася здаровай…

Штораз, прыязджаючы павіншаваць старога Балкана са святам Перамогі, дзеці прывозілі падарункі і для Уман — віншуючы дзеда, яны віншавалі і бабулю. Стары Балкан, гледзячы на задаволеную жонку, жартам казаў: «Вой, хлопцы, цяпер зразумела, чаму вы для мяне возіце падарункі. Я ўсё ж такі салдат Перамогі. Вось толькі незразумела мне, чаго гэта вы ўшаноўваеце бабку сваю? Дзе гэта і з якім немцам яна ваявала?..» — кпіў ён са старой. Калі стары так жартаваў, па твары Уман прабягаў амаль незаўважны цень — было зразумела, што мужавы словы бянтэжаць яе. Але яна адразу ж пачынала жартаваць і адказвала задаволенаму сваімі словамі мужу ў такім жа тоне:

— Вой, ды вы толькі паглядзіце на яго! Што ён такое кажа?! Знайшоўся мне Гераглы ў жалезных латах. Вы павярнуліся і пайшлі адгэтуль, сказалі, што на вайну. А хто пакутаваў тут? Мы пакутавалі. З верхам набівалі прадуктамі караблі і адсылалі вам, вопратку таксама адсылалі. Калі ў каго было дзве кашмы, дык адну аддавалі на вашы патрэбы, а самі аралі тут да непрытомнасці, з голаду пухлі. А тая праклятая вайна ўсё ніяк не канчалася… Калі б вы былі такімі адважнымі, хіба ж вайна цягнулася б так доўга? Ведаеце, хто вы? Вы тыя, хто хаваўся па завуголлях, еў тое, што прысылалі з дому, ды яшчэ рускай гарэлкай галовы тлуміў, вось вы хто…

Прамаўляючы такія словы, Уман пазірала на родных і бачыла, што яе дзеці, нявесткі і зяці ўсім сваім выглядам падтрымліваюць яе.

Бег час. Здавалася, што хвароба назаўсёды пакінула Уман, аднак гэта было не так. Напрыканцы лета старая зноў пачала скардзіцца на болі, і было зразумела, што хвароба зноў вярнулася да яе. Яшчэ праз колькі дзён бабуля зусім зблажэла, не магла ўставаць з ложка, імкліва схуднела і відавочна пакутавала. Дзеці, якіх зусім нядаўна радавала матчына здароўе, зноў звярнуліся па дапамогу да дактароў. Стары зноў наважыўся быў везці жонку ў Ашхабад, але пасля паразважаў і вырашыў: ён не надта верыць, што тамтэйшае лячэнне можа канчаткова перамагчы хваробу. Уман цяпер была падобна да тапельца, які дзеля выратавання хапаецца за ўсё, што трапляе пад рукі, нават за саломінку. Некаторыя вяскоўцы, прыходзячы наведаць хворую, раілі звярнуцца да народных лекараў, імёны якіх людзі добра ведалі. Стары зноў пасадзіў жонку ў машыну і аб'ехаў усё навакольле, наведваючы ўсіх лекараў, да якіх яму параілі завітаць. Дома Уман старанна выконвала іх рэкамендацыі. Праўду кажучы: пакуль душа не адляцела, надзея яшчэ застаецца… Хто ведае…

Аднойчы стары пачуў, што ў Джангe жыве надзвычай магутная лекарка-казашка, і адразу ж павёз да яе сваю старую. Жанчына агледзела Уман і пачала наракаць на старога Балкана: «Ах ты, туркмен, вось пра такіх, як ты, кажуць: пакуль не тузанеш — не адчуе. Ну дзе ж вы былі дагэтуль? Чаму ж ты раней не прывёз да мяне сваю жонку і жывеш жа ад мяне зусім блізка — можна сказаць, два крокі… Калі мужчына робіцца старым, у яго ўся надзея на сяброўку жыцця. Жонка, канечне, і ў маладосці патрэбная, але пад старасць асаблівая. Трэба клапаціцца пра жончына здароўе — вось памрэ яна, і ты ўбачыш, што і жонкі для цябе не знойдзецца, хіба што са мной ажэнішся!» — паўжартам гаварыла яна, вельмі абураючыся пры гэтым. Жанчына-табіп адразу ж прыгатавала лякарства з нейкіх зёлак і падказала старому яшчэ адзін спосаб лячэння: трэба злавіць у моры цюленя і пару разоў накарміць хворую сырой пячонкай, пакуль тая яшчэ гарачая і ў ёй не запяклася кроў. «Бог ад кожнай хваробы дае чалавеку лекі, а каб яму лёгка было іх здабыць, дазваляе існаваць адпаведным сродкам у той мясціне, дзе жыве хворы. Вось чаго вакол вас многа? Вады многа, ёсць мора, а калі ёсць мора — там ёсць і цюлені», — гаварыла яна на развітанне.

Балкан не надта паверыў у словы пра лячэнне пячонкай цюленя, але, каб пасля ў выпадку чаго не каяцца, не шкадаваць пра тое, што зрабіў не ўсё, што павінен быў зрабіць, мусіў пагадзіцца з лекаркай. Стары некалькі дзён хадзіў да ўсіх рыбакоў, якія жылі на ўзбярэжжы, распытваў, ці не трапляў каму часам у рыбацкую сетку цюлень. Але дзе ж ты знойдзеш тых цюленяў, якія так проста заблытваліся б у сетках рыбакоў? Аднойчы, праўда, у адным з такіх месцаў яму паказалі нежывога цюленя, а яму абавязкова трэба была жывая жывёліна, з якой адразу ж можна было б выцягнуць гарачую пячонку. У рэшце рэшт стары зразумеў, што ніхто яму не дапаможа і давядзецца самому выпраўляцца ў мора па цюленя.

У адзін з такіх дзён, калі яны, двое старых, раніцай паснедалі, Уман са шкадаваннем паглядзела на мужа, які праз яе хваробу вось ужо колькі часу не меў спакою, усё кудысьці спяшаўся: «Ты больш не старайся знайсці для мяне лекі — будзе тое, што наканавана… Вось ужо шэсць ці сем месяцаў ты не ведаеш стомы, зусім змарнеў. Ты лепей сябе глядзі, а я буду прымаць тое лякарства, што зрабіла для мяне лекарка-казашка: а раптам яно мне дапаможа?» — сказала яна мужу. Уман прамовіла гэтыя словы так ласкава, з такой пяшчотай і цеплынёй у голасе, што стары расчуліўся. Жадане вылечыць жонку, дапамагчы ёй зрабілася ў яго неадчэпнай ідэяй. Гледзячы на мора, ён усё часцей пачаў думаць пра вусатых прыгажуноў цюленяў, якія жывуць недзе ў гэтай вадзе…

**З туркменскай.**

**Пераклад Ірыны КАЧАТКОВАЙ**

# Паэзія Усходу: тонкая справа перакладу



**Два гады таму беларускія пісьменнікі, сярод якіх быў наш сённяшні суразмоўца Казімір Камейша, патрапілі на экскурсію ў Нацыянальны інстытут рукапісаў Акадэміі навук Туркменістана — па запрашэнні самога інстытута. Ён і стаў ініцыятарам падрыхтоўкі і выдання кнігі, пра якую пойдзе гаворка, — зборніка перакладаў вершаў нацыянальнага паэта Туркменістана Махтумкулі.**

— У той год у Ашхабадзе шырока святкаваўся юбілей паэта Махмуда Палвана, — згадвае Казімір Вікенцьевіч. — І ўжо тады вялася падрыхтоўка да наступнага вялікага свята — юбілею Махтумкулі. Нам, гасцям свята, паказалі перакладныя выданні твораў паэта, якія з'яўляліся ў розныя гады ў іншых краінах. Што да беларусаў, мы на той час мелі адну такую кнігу, вельмі сціплую, але звалася яна дужа прыгожа — «Салавей шукае ружу». Урэшце, мы і дамовіліся з Інстытутам рукапісаў пра выданне новай, больш грунтоўнай і рэпрэзентабельнай кнігі…

**— Што сёння можна сказаць пра здзейсненую вамі работу?**

— Практыка паказвае, што найлепшыя перакладныя кнігі паэзіі атрымліваюцца тады, калі за іх бярэцца адзін чалавек. Калі ж перакладчыкаў маса, вобраз аўтара расплываецца, кожны нечага недадае ці, наадварот, дадае шмат свайго… Мы адпачатку дамовіліся, што працай займуся я. Інстытут падрыхтаваў вельмі цудоўныя рускамоўныя падрадкоўнікі, нават з варыяцыямі асобных вобразаў. Я ўцёк у пушчу, замкнуўся ў бацькоўскай хаце і працаваў.

Часу было ўсё меней, я разумеў, што адзін не ўпраўлюся, і мы з Ганадам Чарказянам, які курыраваў працу, звярнуліся па дапамогу да Міколы Мятліцкага і Віктара Шніпа. Акром таго, я дадаў у змест зборніка найлепшае, на мой погляд, з папярэдняй кнігі перакладаў Махтумкулі «Салавей шукае ружу». Назваў для новай кнігі я абраў радок Махтумкулі: «З кубка вечнасці мёд».

Вядома, я праглядаў працу папярэднікаў, шматлікія пераклады, што выдаваліся ў Маскве. Але, па шчырасці, мне сустракаліся папросту бездапаможныя пераклады, далёкія ад арыгінала, дзе часам прапускаліся нават цэлыя строфы. Так я вырашыў не зважаць на іншых, трымаўся толькі падрадкоўнікаў і імкнуўся да блізкасці да арыгінала. Таксама я ўлічваў і тое, што Махтумкулі — паэт сапраўды, глыбока народны, бо творы яго перадаваліся не праз друк, а праз вусны, лічы, праз сэрца.

Сама форма верша патрабавала вялікай напругі: чацвёрты радок першай страфы рымфуецца з чацвёртымі радкамі наступных строф. Трэба мець вялікі слоўны запас, каб, прыкладам, на адно і тое ж слова знайсці трыццаць рыфмаў. Я заўжды выходзіў з гэтага становішча і яшчэ раз пераканаўся, якая ўсё-такі багатая беларуская мова.

Адкрываецца кніга прадмовай Прэзідэнта Туркменістана Гурбангулы Бердымухамедава, а першы верш тут — «Будучыня Туркменіі», які ведае кожны туркмен, — ён даўно гучыць для іх як гімн.

**— Калі не памыляюся, «Будучыня Туркменіі» ёсць у перакладзе Караткевіча…**

— Я параўнаў з арыгіналам… Ён усё ж моцна ад яго адступіў.

**— Як прынялі кнігу на радзіме Махтумкулі?**

— Спачатку яе прэзентавалі тут, а ў маі мінулага года мы паехалі ў Ашхабад, на святкаванне юбілею Махтумкулі. Гэта было грандыёзна. Удзельнікі — з усяго свету. Вершы Махтумкулі гучалі на мовах усяго свету, і па-беларуску таксама. І нашая работа, наша кніга глядзелася годна сярод многіх іншых. За гэтую працу нас узнагародзілі медалямі Махтумкулі.

**— Ці сустракаліся вы з творчасцю Махтумкулі да працы з перакладамі яго вершаў?**

— Нячаста. Нешта чытаў, чуў, што ёсць такі класік. Зноў жа, мушу сказаць, што тыя пераклады, якія меліся ў нас раней, не найлепшыя. Не маючы намеру некага ганіць, заўважу, што многія з іх відавочна рабіліся не з арыгінала ці падрадкоўнікаў, але з рускамоўных перакладаў. А пераклад з перакладу — гэта, як я лічу, тое ж самае, што цалаваць жанчыну праз другога мужчыну.

**— І якое ўражанне пасля такой вялікай работы пакінуў у вас вялікі паэт Усходу?**

— Я выразна бачыў: перада мной вялікі творца, шматпланавы. Як і ўсе ўсходнія паэты, гэта паэт-мысляр. У яго шмат афарыстычных думак, радкоў, што прымусяць задумацца чалавека любога стагоддзя. Найлягчэй перакладалася яго інтымная лірыка. Яна вельмі моцная. Была ў Махтумкулі каханка Менглі — у інтымных вершах гэтае імя гучыць малітоўна. З верша ў верш яно паўтараецца. Іншыя творы нават слязу нагортваюць…

**— Калі інтымная лірыка перакладалася найлягчэй, то што давалася найцяжэй?**

— Як ні дзіўна, самыя цяжкія вершы — кароткія. Чым меншы твор — тым больш думкі ў сябе ён убірае. У вялікім тэксце ёсць час на тое, каб у яго ўвайсці, прасякнуцца настроем, разгарнуць думку, а тут патрабуецца максімальная канцэнтрацыя. Так, цяжкасці ўзнікаюць, калі ўсё гэтае мнагаслоўе трэба ўкласці ў восем радкоў.

**— Фармальна вашыя пераклады абсалютна супадаюць з арыгіналам?**

— Абсалютна... Тут мне згадваюцца прыклады, калі перакладчык на выхадзе даваў тэкст, які меў больш радкоў, чым арыгінал. Калі Язэп Семяжон перастварыў па-беларуску «Пана Тадэвуша», Анатоль Вялюгін смяяўся: «У яго на тысячу з нечым больш радкоў, чым у Міцкевіча…» А бывае і наадварот: пераклады, якія перасягаюць хараством — не саступаючы фармальна, — тэкст-арыгінал. Вазьміце Лермантава: «Звезда с звездою говорит». Гэта ж нават вымавіць цяжка. А ў перакладзе Куляшова?.. «І зорка зорцы голас падае».



**— А як кладуцца ўсходнія вобразы на беларускую мову?**

— Вобраз — такая хітрая справа, што яго далёка не кожны раз перакладзеш літаральна. Часам папросту не супадаюць рэаліі, якія адлюстроўваюць дзве розныя мовы, рэаліі, у якіх тыя мовы нараджаліся і развіваліся. У такім выпадку трэба мець на ўвазе думку, ставіць яе ў цэнтр. На гэтым часта перакладчыкі выкрываюцца — калі перакладаюць вобраз літаральна. Я неяк раз перакладаў са славацкай, і там была «жабка ў калодзежы». Доўга думаў і ўрэшце так і пераклаў. Высветлілася, што ў нашай мове гэты выраз азначае нешта кшталту «не плюй у калодзеж»… Часам даводзіцца і зусім адмовіцца ад вобраза, каб захаваць думку.

**— Варта звярнуць увагу на назву кнігі: «З кубка вечнасці мёд» нагадвае вашае «Паміж кубкам і вуснамі».**

— Можна мяне пазнаць *(Смяецца.)*. Я люблю слова «кубак», у мяне яно шмат дзе сустракаецца. Прынамсі, беларускі чытач упадабаў гэтую назву.

**— Ці знайшлі вы нешта агульнае між сваёй паэзіяй і думкамі Махтумкулі?**

— Хіба тое, што ён думаў пра свой народ. У той час, калі ён жыў — гэта XVIII стагоддзе, — краіна загразала ў міжусобіцах. Ён марыў пра адзіную краіну, дзе туркмен будзе жыць з туркменам у згодзе.

**— Цікава, чаму вы ўвогуле звярнуліся да перакладчыцкай дзейнасці?**

— Самы першы пераклад я зрабіў з Хаіма Мальцінскага, а датуль нічога не перакладаў, нават з рускай. Мяне папрасту папрасілі дапамагчы: выдавецтва рыхтавала аднатомнік, а перакладчык не паспяваў зрабіць усю работу ў час. Я пераклаў тры-чатыры тэксты, але справа ішла цяжка, дужа цяжка. Доўга я мучыўся з гэтымі вершамі.

А потым — паціху, паціху… У той вялікай краіне меліся трывалыя міжлітаратурныя сувязі, узаемапераклады былі справай будзённай. Я і туркменаў перакладаў, калі працаваў у «Вясёлцы». Часцей за ўсё працаваў з падрадкоўнікамі, а з арыгіналаў перакладаў тэксты польскамоўныя, рускія, украінскія, пазней — са славацкай.

**— Дарэчы, аб працы з падрадкоўнікам. Як вы выбудоўваеце гэты працэс?**

— Па-першае, трэба ведаць форму верша, памер. Папрасіць хоць адну страфу для прыкладу. Калі раблю падрадкоўнік са сваіх вершаў, я заўжды перакладаю, хоць прыблізна, адну страфу. Можна напісаць «рыбу», але і яна бывае падманлівая, адводзіць ад рытму. Найлепш, вядома ж, калі ведаеш мову, з якой перакладаеш, хоць і далёка ад дасканаласці: патрэбнае слова можна і ў слоўніку знайсці, значэнне мае самое адчуванне мовы. З прозай лягчэй — хоць і тут трэба прытрымлівацца празаічнага рытму. Але да прозы я рэдка звяртаюся, я нецярплівы, мне лепш над вершам падумаць — з ім можна і ў грыбы пайсці, а рукапіс рамана з сабой у лес не пацягнеш.

## Пажар

*Горад мой акіянам агнеў.*
*Грозны лівень вачэй каханай.*
*Чорны дым абвалок мяне —*
*Гнеў нязбытны маёй каханай.*

*Незямная жыхарка яна.*
*З кім, скажыце, яе параўнаць?*
*Я жахлівей нічога не знаў*
*Ад змяінай усмешкі каханай.*

*Як змяя, і каралі гараць,*
*З ёй сусвет танчыць*
*па вечарах.*
*Два гранаты зрываць пара,*
*Што саспелі ў маёй каханай.*

*Той агонь не палае — баліць,*
*Ён і слёзы Меджнуна спаліў.*
*Я не знаю, што ёсць на зямлі*
*Найтаемней ад гурыі*
*раю каханай.*

*Сэрца старыцца, рана баліць.*
*Хто увагай суцешыць яго калі?*
*Для няшчаснага Махтумкулі*
*Шчасце — толькі павага*
*каханай.*

**— З усёй перакладчыцкай практыкі які тэкст, які аўтар запомніліся найбольш?**

— Відаць, гэта і ёсць Махтумкулі. А яшчэ ёсць брэсцкі паэт Міхась Кулеш. Яго перакладаю так, нібы пішу сваё. Таксама ў мяне ёсць свой перакладчык у Польшчы, мой родзіч, акцёр кіно і тэатра Чэслаў Ярашынскі. У яго сям'і цяжкі лёс: усіх у 1940-м годзе выслалі з Беларусі ў Сібір, адкуль яны вярталіся ўжо ў Польшчу. Чэслаў піша байкі. А яшчэ ён напісаў кнігу «Высланне» — пра той цяжкі час, тое жыццё. Вось яе я б хацеў перакласці. Пра гэта думаю ўжо даўно.

**Гутарыла Наста ГРЫШЧУК**

### Даведка «ЛіМа»

Махтумкулі — туркменскі паэт, класік туркменскай літаратуры, жыў у XVIII стагоддзі (прыкладна ў 1727 ці 1733 — 1783 гадах). Стварыў пад псеўданімам Фрагі. Бацька яго — таксама паэт, Азадзі Даўлетмамед.

Махтумкулі паходзіў з племені гёклен, што жыло ў перадгор'ях Капетдага, у даліне ракі Атрэк з прытокамі Сумбар і Чандыр. Дакладней, сям'я паэта належала калену кышык роду геркез з названага племені; гэта была аседлая яго частка, якая займалася земляробствам і знаходзілася ў васальнай залежнасці ад персідскіх уладароў.

Псеўданім Фрагі азначае «разлучаны». Яго (альбо сапраўднае імя) паэт змяшчаў напрыканцы кожнага верша. Такі зварот да самога сябе быў у літаратурнай модзе таго часу.

Адукацыю Махтумкулі атрымаў у вясковай школе, дзе выкладаў яго бацька. Ужо ў маленстве хлопчык чытаў і па-персідску, і па-арабску. Гэтаксама з самых юных гадоў ён навучаўся рамёствам (кавальству, ювелірнай справе і інш.). Затым Махтумкулі вучыўся ў медрэсе (мусульманская навучальная ўстанова, якая выконвае ролю сярэдняй школы і мусульманскай духоўнай семінарыі; яе выпускнік мае права паступаць ва ўніверсітэт) пры грабніцы святога Ідрыс-Баба ў Кізіл-Аяку на Амудар'і ў Бухарскім ханстве. Пры далейшым навучанні ў самой Бухары ён пасябраваў з маўланам (найвышэйшы вытлумачальнік канонаў шарыяту) Нуры-Казымам ібн Бахарам. Разам яны вырушылі ў падарожжа па тэрыторыі сучасных Узбекістана, Казахстана, Таджыкістана, Афганістана — да паўночнай Індыі.

У 1760 годзе памёр бацька Махтумкулі, і паэт вярнуўся на радзіму. Тут Махтумкулі даведаўся, што дзяўчыну па імені Менглі, якую ён кахаў, аддалі замуж за іншага. Каханне да Менглі — адна з галоўных тэм паэзіі Махтумкулі.

Наступным ударам сталася гібель двух старэйшых братоў: яны ўдзельнічалі ў пасольстве да ўладара Ахмед-шаху і патрапілі ў палон. Гэтая тэма таксама знайшла адлюстраванне ў вершах Махтумкулі.

Паэт ажаніўся, меў двух сыноў, якіх горача любіў, але лёс быў па-ранейшаму непрыхільны да Махтумкулі: хлопчыкі памерлі. Пасля чарговага ўдару паэт выправіўся ў новае падарожжа.

Махтумкулі моцна паўплываў на развіццё паэтычнай мовы Туркменіі, наблізіўшы яе да народнага маўлення. Ён адмовіўся ў сваёй творчасці ад араба-персідскай метрыкі, традыцыйнай для туркменскай літаратуры, на карысць сілабічнай сістэме.

Штогод у Туркменістане 18 мая святкуецца Дзень адраджэння, адзінства і паэзіі Махтумкулі Фрагі.

# На розны густ

Часопіс «Полымя» прапануе некалькі цікавых маршрутаў на розны густ.



Распачынаецца выданне дакументальнай аповесцю Уладзіміра Сцяпана «Гульні», дзе згадваюцца самыя рызыкоўныя прыгоды і небяспечныя ўчынкі хлапчукоў з гарадскога пасёлка. Пасля гэтага вострасюжэтнага, брутальнага твора ўжо немагчыма ідэалізаваць вучняў сярэдніх класаў у строгай школьнай форме. Да таго ж лёс большасці герояў, лаканічна азначаны ў дужках, найчасцей складаецца нешчасліва...

Наступны літаратурны маршрут — «ваенны». Апавяданне Валянціны Янавец «Прашу міласэрнасці» вяртае ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Галоўны герой, нямецкі афіцэр Хельмут фон Шпэер, заўважае падабенства маладой беларускай сялянкі са сваёй жонкай і насуперак завучанаму ваеннаму напамінку («У цябе няма сэрца, нерваў...») пачынае бачыць у безабаронных сялянах людзей. Хельмут адмаўляецца ад карнай аперацыі, пасля вайны здзяйсняе даўнюю мару і становіцца прафесарам гісторыі, але ў апошнія хвіліны жыцця згадвае «натоўп людзей з іншай вёскі, знішчаных па яго загадзе».

Развагі пра больш блізкую да нас вайну — у артыкуле Людмілы Сіньковай, дзе аналізуюцца афганскія апавяданні Сяргея Дубовіка, надрукаваныя ў свой час у «Маладосці».

Больш аптымістычны «тэатральны» маршрут прапануе Зоя Матусевіч, якая знаёміць чытача з рэпертуарам Свярдлоўскага тэатра музкамедыі. Сюжэты мюзіклаў, якія ставіцца гэтым тэатрам, уражваюць сучаснасцю і надзённасцю. Асоль з «Пунсовых ветразяў» працуе ў начной установе, а сюжэт *reality*-мюзікла «*www.СИЛИКОНОВАЯ ДУРА.net.*» нагадвае «Урокі першага кахання» Валерыя Гапеева.

Змяняючы «тэатральны» маршрут на чацвёрты, «аўтабіяграфічны», варта звярнуцца да мемуарных нататак Тацяны Шамякінай «Драма камедыёграфа», прысвечаных Андрэю Макаёнку. Аўтарка шчодра цытуе кнігу Івана Шамякіна «Тайна драмы (Аповесць пра сябра)», дзеліцца ўласнымі ўспамінамі пра харызматычнага, абаяльнага, вулканічна-ўзрыўнога драматурга, які ставіўся да Тацяны з увагай хроснага бацькі.

У дадатак чытачы маюць магчымасць разам з Аленай Раманоўскай трапіць у свет кітайскай паэзіі і нават даведацца пра сербскага пісьменніка Іва Андрыча з навуковай публікацыі Сняжаны С. Башчаравіч.

**Юлія ШПАКОВА**

# Святочная настальгія

Лістападаўскі нумар «Нёмана» святочны. Легендарнаму выданню споўнілася 70 гадоў! Таму не дзіва, што ўсе матэрыялы юбілейнага выпуску знітаваныя гэтай урачыстай нагодай.



Нумар атрымаўся літаратурна-гістарычным, нават крыху настальгічным. На першай старонцы вокладкі — галоўныя рэдактары часопіса з 1952 года, сярод якіх вядомыя імёны беларускай літаратуры : Іван Шамякін, Пімен Панчанка, Андрэй Макаёнак, Анатоль Кудравец, Алесь Жук, Міхась Пазнякоў, Алесь Бадак. Па арыгінальным калажы можна прасачыць, як з гадамі змянялася выданне ад літаратурнага альманаха «Отчизна» да сённяшняга «Нёмана». А адмысловыя старонкі пад калантытулам «"Нёману" — 70!», на якіх месцяцца вытрымкі з архіўных нумароў, нібы на машыне часу, вяртаюць нас і ў пераможны 1945-ы, і ў пасляваенны 1947-48 гады.

Калі крыху адысці ад юбілейнай тэмы, то хацелася б адзначыць нізку апавяданняў Юрыя Юлава «Снягурка, ці Яна была актрысаю...». Гэта тры невялічкія тэксты, якія сам аўтар назваў наменклатурнай, веснавой і жаночай фантазіяй. У першым апавяданні апісваецца сучасны «маленькі чалавек» Георгій Канстанцінавіч, чыя гісторыя спачатку можа падацца іранічнай і пацешнай, але паступова робіцца драматычнай, а заканчваецца трагедыяй.

Другое апавяданне мае дзіўную назву «Чучмара», што азначае выдуманы аўтарам усходні напой — шарбат, ці сарбет, але акрамя традыцыйных шыпшыны і кізіла ён гатуецца з карэньчыкамі травы закаханых. Гісторыя пра вясну, каханне і... чучмару. Трэці тэкст, які даў назву ўсёй нізцы апавяданняў, вельмі жыццёвы і вельмі сумны. У ім распавядаецца пра цяжкі лёс жанчыны з «выбітага пакалення перабудовы», якая ўсё жыццё марыла стаць актрысай, але вымушана была забяспечваць сям'ю ў тыя цяжкія 90-я. Але ўсё ж такі мара здзейснілася, хоць і не так, як уяўлялася: «Алина и в самом деле стала актрисою: четыре раза играла в ТЮЗе Медвежонка, два раза — Зайчика и один раз — самую настоящую Снегурочку!»

Пастаянных чытачоў «Нёмана» парадуе другая частка «Зямлі ў арэоле таямніц» Тацяны Шамякінай. Аматараў сусветнай літаратуры чакае фінальная частка рамана «Чалавек па мянушцы Мыш» Жоржа Сімянона ў выдатным перакладзе Зінаіды Краснеўскай. І асобны «дзякуй» хочацца сказаць Кастусю Северынцу за ўдалы пераклад вершаў Уладзіміра Дубоўкі.

Адным словам, вельмі дынамічны, жывы і сучасны атрымаўся святочны нумар «Нёмана». А гэта сведчыць пра тое, што часопіс малады і актуальны, нават у свае 70!

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

# Праз год самастойнага плавання

Здаецца, гэта было зусім нядаўна — а ўжо амаль год мінуў з таго дня, як пабачыў свет першы нумар аднаўленага часопіса «Бярозка». А цяпер у друк здадзены нумар дванаццаты. Ды і наступныя, 2016 года, на падыходзе...



Хутка новая, самастойная «Бярозка» адсвяткуе першую гадавіну. З чым жа падышоў рэдакцыйны калектыў да гэтай хай і невялікай, а ўсё ж знакавай падзеі?

«Бярозка» ў далёкім 1924 годзе пачыналася як «Беларускі піянер», часопіс для падлеткаў. Вось толькі з якога ўзросту хлопчыка ці дзяўчынку можна назваць падлеткам? Пытанне не такое і простае. Цяжка зрабіць часопіс, які быў бы аднолькава цікавы і прыцягальны як для старшакласнікаў, так і для вучняў сярэдніх класаў, але калектыў рэдакцыі «Бярозкі» робіць усё магчымае, каб менавіта так і было. Асабліва гэта датычыць літаратурнага блока часопіса, які падзяляецца на дзве часткі.

У першай, пад агульнай назвай «Літаратурныя старонкі», змяшчаюцца творы сучасных аўтараў. На працягу 2015 года тут паспелі «пагасцяваць» Мікола Чарняўскі, Мікола Шабовіч, Міхась Пазнякоў, Анатоль Зэкаў, Валерый Гапееў, Наталля Ігнаценка, Аксана Спрынчан і многія іншыя. Асабліва спадабалася юным чытачам «Бярозкі» аповесць «Прынцэса» Алега Ждана, галоўныя героі якой — такія ж падлеткі, як і яны самі… А на самым пачатку новага 2016 года з'явяцца на старонках часопіса Навум Гальпяровіч, Мікола Мятліцкі, Расціслаў Бензярук.

Творы нашых юных чытачоў друкуюцца ў рубрыцы «Верасок». Іх нават некалькі, гэтых верасоўскіх рубрык: «Верасок: паэзія»; «Верасок: проза»; «Верасок: казкі школьнага ранца». Вядома ж, па сваіх мастацкіх якасцях большасць гэтых тэкстаў яшчэ не зусім літаратура — хутчэй, заяўка на літаратурную творчасць. Дарэчы, адна з рубрык «Верaска» так і называецца — «Заяўка на Парнас».

Ва ўсіх гэтых творах шмат непасрэднасці, шчырасці, вялікага жадання быць пачутым!.. Так, далёка не кожны стане сапраўдным пісьменнікам, але хто ведае… Менавіта з «Бярозкі» пачыналі свой шлях у вялікую літаратуру многія вядомыя сёння творцы. Для тых, хто марыць звязаць жыццё з журналістыкай, таксама маецца шмат разнастайных рубрык: «Школа журналістыкі», «Пазакласнае», «Па-даросламу», «Калі сур'ёзна». Пастаянныя рубрыкі «КінаШкола», «Табе навука», «Практыкум», «Сітуацыя плюс», «Псі-факторыя», «Бел. літ.» цікавяць не толькі юных чытачоў, але і іх бацькоў і настаўнікаў.

Часопіс «Бярозка», які на пачатку гэтага году зноўку выйшаў з ціхай гавані «Маладосці» ў самастойнае плаванне па вялізным моры СМІ, з поспехам вытрымаў самыя першыя і самыя сур'ёзныя выпрабаванні. І высокімі хвалямі, і моцнымі вятрамі, і нават поўным штылем — не збочыўшы з зададзенага курсу, не спыніўшыся на паўдарозе…

А значыцца, самастойнае плаванне «Бярозкі» працягнецца.

**Генадзь АЎЛАСЕНКА**

# Развітальны падарунак лістапада

Мінулы месяц прайшоў пад знакам юбілею Уладзіміра Караткевіча — гэта можна сцвярджаць безумоўна. Прыкладам, «Маладосць» друкуе адразу два яго тэксты, якія раней большасць чытачоў не тое што не бачыла, але і не здагадвалася пра іх існаванне.



Пачнём з таго, што ў 1982 годзе малады паэт Адам Глобус насмеліўся паказаць Уладзіміру Сямёнавічу сваю першую кнігу «10 на 10». Уладзімір Сямёнавіч прачытаў. І напісаў падрабязны водгук. Матэрыял гэты, падрыхтаваны да друку Хрысцінай Чарнушэвіч, цікавы, як ні круці. Па-першае, ён прыцягне ўвагу аматараў творчасці самога Глобуса. Па-другое, зацікавіць даследчыкаў творчасці Караткевіча, тэкстолагаў, графолагаў («Маладосць» дае не толькі тэкст, але і выяву рукапіса). Трэцяе — гэта неверагодная ўдача для сённяшніх пачаткоўцаў: ведаючы тэксты з «10 на 10» і разабраўшы заўвагі пісьменніка, можна зрабіць высновы і пра свае творчыя высілкі. Цікавы водгук Караткевіча і крытыку — скажам так, у ракурсе калегіяльным. І апошняе (найбольш відавочнае): тэкст не застанецца без увагі сённяшніх чытачоў Уладзіміра Караткевіча.

Другі падарунак ад «Маладосці» — адказы пісьменніка на пытанні анкеты, складзенай Алегам Бембелем. На той час — 1976 год — ён працаваў у Інстытуце філасофіі Акадэміі навук БССР і рыхтаваў кандыдацкую дысертацыю на тэму «Нацыянальнае і інтэрнацыянальнае ў мастацкай культуры». Дысертацыя так і не была дапушчаная да абароны, а вось адказы класіка засталіся. Гэта найкаштоўнейшы тэкст, які паказвае ўжо не творчую фантазію аўтара — але яго «празаічны» погляд на рэчы. Гэта не прамова рамантыка, але развагі строгага, стрыманага мысляра. І было б памылкай лічыць, што такі Караткевіч нецікавы.

Аддаўшы належнае лістападаўскім знаходкам «Маладосці», вернемся ў самы пачатак, да прозы і паэзіі. Кася Глухоўская, Андрэй Сідарэйка, Галіна Пярун, Настася Нарэйка — усе яны выступілі з кароткімі апавяданнямі, нататкамі, урыўкамі твораў, якія так і не будуць даведзеныя да строгай жанравай формы. У цэнтры тэкстаў — чалавек з маленькай літары, бо ён непрыкметны, звычайны, і вакол яго — такія ж людзі, і ў кожным пры ўсёй непрыгляднасці ёсць Нешта. Дух гэтай таямніцы задала Кася Глухоўская з яе любоўю да іншасказальнасці і імкненнем паглядзець на свет вачыма дзіцяці. Пасля яе тэкстаў (часам магічных, а часам — даволі наіўных) іншыя апавяданні ўспрымаюцца менавіта ў такім казачным рэчышчы, і да кожнага героя вы ставіцеся з вялікай сімпатыяй. Што да паэзіі, тут мы бачым Стасю Кацюргіну, якая ўсё больш ужываецца ў ролю новай Раісы Баравіковай, пры гэтым застаючыся самой сабою. Чаго не скажаш пра Зміцера Крэса, які стылізуецца пад нашаніўца, але выйсці за межы стылізацыі так і не можа. Відавочна, для яго гэта не канчатковая кропка творчага пошуку.

**Наста ГРЫШЧУК**

# Зазірнём у Туркменістан

**Ці наведвалі вы калі-небудзь Туркменістан? Ці шмат ведаеце пра гэтую краіну? Ці плануеце ў найбліжэйшы час набыць квіток у Ашхабад? Пакуль туркмены знаёмяцца з беларускай культурай, карысна будзе і нам дазнацца пра адну з далёкіх усходніх краін. Такая магчымасць ёсць: у Мінску вучыцца нямала студэнтаў з Туркменістана. Цікавай і пазнавальнай атрымалася сустрэча з Айнай Маметсаліевай (студэнтка эканамічнага факультэта Белдзяржуніверсітэта), Айджэмал Цекаевай (БДУ, факультэт сацыяльна-культурных камунікацый) і Дадэбаем Пірматавым (Міжнародны дзяржаўны экалагічны ўніверсітэт імя А. Д. Сахарава)**

## МІНСК І АШХАБАД

Дадэбай, Айна і Айджэмал нарадзіліся ў Ашхабадзе. Студэнты з Туркменістана расказалі пра сваю краіну і падзяліліся ўражаннямі пра Мінск і Беларусь. У нашай сталіцы маладым туркменам падабаюцца вялікія паркі і гістарычныя будынкі.

«У нас таксама ёсць паркі, але тут вышэйшыя дрэвы, тут лясы. Мінск — лясны горад. Тут больш прахалодна, і нам гэта падабаецца. Туркменістан — спякотная краіна, таму ў Беларусі хочацца рухацца і актыўнічаць», — распавядае Айна.

> *У Туркменістане вельмі цэняць спецыялістаў, якія атрымалі адукацыю ў Беларусі. Саміх студэнтаў прываблівае магчымасць прайсці вытворчую практыку і атрымаць працоўны досвед, які надалей абавязкова спатрэбіцца.*

Пасля землятрусу 1948 г. у Ашхабадзе амаль не засталося старых пабудоў. Сёння сталіца мае сучаснае аблічча, тут працягваюць узводзіцца новыя будынкі, якія абавязкова маюць залатыя дэкаратыўныя элементы і абліцоўку з белага мармуру. Разам з тым у Туркменістане нямала старажытных гарадоў, багатых на архітэктурныя помнікі. Гэта Кёнеўргенч з маўзалеямі, крэпасцямі і знакамітым мінарэтам Кутлуг-Цімура, даўняя сталіца Туркменістана Ніса, культурна-гістарычныя паркі, якія знаходзяцца на месцы некалі буйных і значных гарадоў.

Чым адметная культура Туркменістана? Ці актуальныя сёння народныя традыцыі? Найперш мы згадваем нацыянальны сімвал Туркменістана — прыгожыя саматканыя дываны. Іх ткуць з воўны, і часцей за ўсё гэтай справай займаецца некалькі жанчын-сваячак. Па словах дзяўчат, калісьці кожная жанчына ўмела вышываць і ткаць, але цяпер ткацтва — сямейная традыцыя, якая захавалася галоўным чынам на вёсцы. «Саматканыя дываны цешаць вока, бо адлюстроўваюць нашу культуру, самае лепшае, што мае наш народ. На дыване можна ўбачыць ахалтэкінскага каня, туркменскага алабая — сабаку адмысловай пароды. Можна замовіць у майстрыхі саматканы дыван з партрэтамі ўсіх членаў сям'і. Да таго ж кожны велават (вобласць) мае свой арыгінальны ўзор...» — распавядае Айджэмал.

У дамах сучасных туркменаў можна сустрэць не толькі саматканыя дываны, але і прамысловыя вырабы. «Нашы дываны больш тоўстыя і шчыльныя, па іх зручней хадзіць», — адзіналогасна сцвярджаюць студэнты з Туркменістана. Ткацтва дываноў з даўніх часоў уважаецца ў гэтай краіне за высокае майстэрства. Тут быў вытканы самы вялікі дыван у свеце, занесены ў Кнігу рэкордаў Гінэса. Гэты гігант важыць 1,2 тоны і мае плошчу 301 квадратны метр.



Фота Кастуся Дробава.

*Дадэбай Пірматаў, Айджэмал Цекаева і Айна Маметсаліева на сталічным праспекце Незалежнасці.*

## ЖЫЦЦЁ ПАЧЫНАЕЦЦА КАЗКАЙ

Унікальная постаць у культуры Туркменістана — гэта бахшы, выканаўца народнага эпасу пад акампанемент нацыянальнага струннага інструмента дутара. Бахшы абавязкова спяваюць на вяселлі, у вёсцы іх таксама запрашаюць на свята ў гонар нараджэння дзіцяці. У такія дні для гасцей — усіх жыхароў паселішча — вараць два казаны плову і шурпу (суп з бараніны ці ялавічыны з іншымі інгрэдыентамі), пякуць шмат чабурэкаў, гатуюць такія стравы, як бішмэ, какмач, гарын. А на традыцыйнае вяселле нават у горадзе запрашаюць некалькі сотняў чалавек. Здараюцца ў Ашхабадзе і вяселлі ў сучасным стылі — іх святкуюць у рэстаранах і збіраюць каля сарака гасцей.

Бахшы выконваюць народныя творы, якія больш за ўсё падабаюцца хлопцам. А дзяўчаты з дзяцінства запамінаюць песні «ляля», якія можна спяваць разам за працай. Ёсць у Туркменістане і папулярныя выканаўцы, якія маюць сваіх прыхільнікаў. Моладзь цікавіцца як сучаснай музыкай, так і еўрапейскай класікай.

> *Сёння сталіца мае сучаснае аблічча, тут працягваюць узводзіцца новыя будынкі, якія абавязкова маюць залатыя дэкаратыўныя элементы і абліцоўку з белага мармуру. Разам з тым у Туркменістане нямала старажытных гарадоў, багатых на архітэктурныя помнікі.*

Як для маленькіх беларусаў, так і для маленькіх туркменаў далучэнне да свету нацыянальнай культуры пачынаецца праз народныя казкі. Туркменскія рыцары змагаюцца з драконамі, злодзеямі, фантастычнымі істотамі. Знаёмяцца дзеці і з гістарычнымі апавяданнямі, якія вучаць хлопчыкаў любіць Радзіму, абараняць яе. Дзяўчынак вучаць берагчы сямейны агмень, падтрымліваць добрыя сваяцкія адносіны. Паводле народных казак здымаюцца мультфільмы, ставяцца тэатральныя пастаноўкі.

У школе туркмены знаёмяцца не толькі з класікай нацыянальнай літаратуры, але і з творамі расійскіх ды еўрапейскіх пісьменнікаў. Па словах Айджэмал, моладзь Туркменістана больш цікавіцца класікай, чым прозай ды паэзіяй сучасных аўтараў. Апошняя прачытаная кніга будучай перакладчыцы — «Граф Монтэ-Крыста» Аляксандра Дзюма ў перакладзе на рускую мову.

Каханне — адна з галоўных тэм кіно, тэатра і мастацкай літаратуры. Пра каханне распавядаюць і оперы туркменскіх кампазітараў. Дарэчы, жыхары Туркменістана любяць тэатр не менш за беларусаў. Безумоўнай папулярнасцю карыстаюцца камедыі, з якімі тэатральныя калектывы часам наведваюць вёскі і мястэчкі.

## ЧАМУ БЕЛАРУСЬ?

У распаведзе туркменскіх студэнтаў пра народныя традыцыі і сямейныя звычаі чуецца больш цеплыні і павагі, чым можна было б чакаць ад іх беларускіх аднагодкаў. «Здаецца, вы больш імкняцеся адпавядаць спадзяванням бацькоў, чым мінскія хлопцы і дзяўчаты?» — удакладняю я.

«Бацькі павінны быць у першую чаргу сябрамі, бо менавіта яны дапамогуць вырашыць твае праблемы, — тлумачыць Айна. — Мэта бацькоў — выгадаваць дзяцей, забяспечыць іх працай, даць жытло, дапамагчы стварыць сям'ю. Зрабіць іх паўнавартаснымі членамі грамадства. Калі яны гэтага не зробяць, то не будуць сябе паважаць. Таму мы павінны іх любіць. Сёння ў туркменскіх сем'ях звычайна трое дзяцей, але пяцьдзясят гадоў таму гэтая лічба была ў некалькі разоў большай».

Вядома, у Беларусь моладзь з Туркменістана едзе па падказцы бацькоў. «Мой дзядзька служыў у Брэсце і расказваў, што ў Беларусі добрыя людзі. Гэта сапраўды так, мае аднагрупнікі пры неабходнасці заўсёды дапамагаюць», — распавядае Дадэбай. Па словах Айны, у Туркменістане вельмі цэняць спецыялістаў, якія атрымалі адукацыю ў Беларусі. Саміх студэнтаў прываблівае магчымасць прайсці вытворчую практыку і атрымаць працоўны досвед, які надалей абавязкова спатрэбіцца.

> *Унікальная постаць у культуры Туркменістана — гэта бахшы, выканаўца народнага эпасу пад акампанемент нацыянальнага струннага інструмента дутара. Бахшы абавязкова спяваюць на вяселлі, у вёсцы іх таксама запрашаюць на свята ў гонар нараджэння дзіцяці.*

Студэнты-замежнікі камфортна пачуваюцца ў Беларусі дзякуючы Савету зямляцтваў Белдзяржуніверсітэта. Члены актыву з Кітая, Казахстана, Расіі, Таджыкістана, Украіны і іншых краін ладзяць канцэрты, конкурсы, сходы на працягу ўжо пяці гадоў. Мэта дзейнасці Савета зямляцтваў — інфармацыйная і маральна-псіхалагічная падтрымка.

Адна з самых значных падзей у Беларусі, якія згадваюць Айна і Айджэмал, — гэта Міжнародны студэнцкі форум «Свята Вялікай Перамогі», прысвечаны 70-годдзю Перамогі ў Вялікай Айчыннай вайне. У межах форуму адбылася экскурсія па Беларусі, арганізаваная Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, Студэнцкай асамблеяй Белдзяржуніверсітэта і Мінскім гарадскім выканаўчым камітэтам. У Мірскім замку студэнтам спадабаліся прыгожыя залы і цікавыя экспанаты — карціны, сукенкі, даспехі. У музеі Вялікай Айчыннай вайны ўразілі мультымедыйныя праекты і цікавая экспазіцыя. Жыхары Туркменістана таксама шануюць памяць пра Вялікую Айчынную вайну: тут ладзяцца сустрэчы з ветэранамі, і да вечнага агню штогод ускладаюцца кветкі.

Пасля займальнага распаведу пра Туркменістан ніхто, здаецца, не адмовіцца пакаштаваць шурпу, паслухаць бахшы і палюбавацца туркменскімі дыванамі. Зрэшты, з дапамогай інтэрнэту гэта зусім нескладана!

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

*Унікальны праект*

# Прадстаўніча — пра гістарычны музей

**У сталіцы прэзентаваны альбом «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь», які распавядае пра шэраг знакавых калекцый і асобныя ўнікальныя прадметы з фондаў найбуйнейшага музея краіны. Выданне пабачыла свет дзякуючы супрацоўніцтву музея, ААТ «Прыёрбанк», ганаровага консульства Аўстрыйскай Рэспублікі ў Мінску, вядомых выдаўцоў Аляксандра Аляксеева і Алега Лукашэвіча. Адметна, што тэкст у кнізе падаецца на трох мовах — беларускай, рускай і англійскай.**



Фота Кастуся Дробава.

*Алег Рыжкоў прадстаўляе альбом «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь».*

Прадметы са збораў Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі, пра якія распавядаецца ў гэтым унікальным выданні, маюць выключнае значэнне для айчыннай гісторыі і культуры, яны выдатна ілюструюць нашы здабыткі. Таму невыпадкова намеснік міністра культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Чэрнік падчас прэзентацыі выказаў думку пра тое, што выхад гэтай кнігі — важная падзея ў культурным жыцці нашай краіны, адметны этап развіцця музейнай супольнасці Рэспублікі Беларусь.

Адна з мэт выдання альбома «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь» — прадстаўнічая. Таму кніга ўжо сёння запатрабаваная дыпламатычнымі місіямі Беларусі ў іншых краінах свету. Мае гэтае выданне ў сваёй бібліятэцы і Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка. Дырэктар гістарычнага музея Алег Рыжкоў зазначыў:

— Альбом з'явіўся вельмі своечасова, бо сёння мы прапагандуем сябе як адзіны ў краіне музей, які дае магчымасць паўнавартасна знаёміць з гісторыяй, культурай, традыцыямі нашага народа за межамі Беларусі. У наступным годзе мы цалкам адмовімся ад прадстаўлення копій на выстаўках за мяжой і будзем прапаноўваць толькі арыгінальныя прадметы, якія распавядаюць пра нашу гісторыю і культуру ў тым ліку праз сваю энергетыку. Не так даўно нашу дэлегацыю прымаў дырэктар Гістарычнага музея Казахстана, абсалютна новага, выдатна абсталяванага. Пазнаёміўшыся з альбомам «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь», ён выказаў захапленне нашымі зборамі.

Адметна, што альбом стаў нагодай і для дасягнення папярэдняй дамоўленасці па правядзенні выстаўкі з фондаў нашага гістарычнага музея ў Нацыянальным музеі Малдовы.

Старшыня праўлення «Прыёрбанка» Сяргей Касцючэнка, урачыста прэзентуючы альбом, падзяліўся сваімі ўражаннямі ад сутыкнення з гістарычнай мінуўшчынай краю. Ён заўважыў:

— За час свайго існавання наш банк удзельнічаў у многіх праектах. Зразумела, што яны садзейнічалі і фарміраванню іміджу нашай установы, і падтрымлівалі розныя ініцыятывы. Думаецца, у нас захоўваецца найлепшая ў краіне калекцыя жывапісу мастакоў, якія жывуць сёння. Гэта больш як 600 работ. І яны не схаваныя недзе ў запасніках, а радуюць вока кліентаў банка. Але альбом «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь» — праект асаблівы. Ён дапамагае тым, хто з ім знаёміцца, адчуваць сябе беларусам. Калі глядзіш на фотаздымкі са старонак гэтай кнігі, бачыш старажытны меч ці шаблю, прылады працы, то разумееш: гэта менавіта тыя прадметы, якія дапамагалі продкам перамагаць ворагаў, здабываць ежу, дзякуючы ім існуе наш народ.

Усе прадметы, прадстаўленыя ў альбоме (а іх амаль паўтары тысячы!), былі сфатаграфаваныя на адным фоне адмыслова для гэтага праекта. Іх патрэбна было выняць з фондаў ці экспазіцыі, апрацаваць ці правесці пэўную рэстаўрацыю, каб рэчы выглядалі прэзентабельна. А пры афармленні выдання ўлічаныя самыя актуальныя тэндэнцыі кніжнага дызайну, рашэнні, якія ўдала падкрэсліваюць форму, матэрыял і колер экспанатаў. Мастацкае вырашэнне належыць двум вядомым выдаўцам — Аляксандру Аляксееву і Алегу Лукашэвічу. На іх рахунку — не адзін яркі праект, прысвечаны гістарычным каштоўнасцям Беларусі. Аляксандр і Алег заўважылі:

— Альбом, які мы прадстаўляем сёння, — найбольш поўнае выданне, прысвечанае зборам самага буйнога музея краіны. Гэта падарунак тым, хто любіць мастацтва. Тут можна пабачыць самыя каштоўныя прадметы, што захоўваюцца ў музеі, яны не толькі дэманструюцца ў экспазіцыі, але і знаходзяцца ў фондах, таму даступныя толькі спецыялістам. Мы імкнуліся паказаць маштаб, шматграннасць, унікальнасць збораў Нацыянальнага гістарычнага музея. І хочам, каб кожны чалавек, які пазнаёміцца з выданнем, мог усвядоміць, наколькі багатая, глыбокая, невычэрпная беларуская гісторыя.

Асобы, якія спрычыніліся да працэсу падрыхтоўкі і выдання альбома «Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь», падчас урачыстай прэзентацыі пакінулі подпісы на адным з яго асобнікаў. Цяпер ён стаў каштоўнасцю і трапіў у музейныя зборы.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*На паліцы*

# Чужая? Родная!

Гутаркай па-беларуску ў грамадскім транспарце, краме ці кавярні сёння мала каго здзівіш. Да беларускай мовы ў нашым грамадстве ўжо перасталі ставіцца варожа і казаць «Размаўляйце нармальна!». Хутчэй, наадварот, яна ўспрымаецца з павагай, прыязнасцю, а ў адказ на ветлівае «Дзякуй» прадаўцы вам, верагодней за ўсё, цёпла ўсміхнуцца ці скажуць: «Як вы прыгожа размаўляеце!».

Магчыма, гэта звязана з пэўнага кшталту модай, імкненнем моладзі і школьнікаў вывучаць сваю гісторыю, культуру, што ў прынцыпе немагчыма без ведання мовы. Таму і сталі з'яўляцца ў сталіцы ды іншых гарадах краіны бясплатныя курсы, выходзіць адмысловыя паштоўкі ды календары. Яны дапамагаюць вывучыць беларускія словы, знайсці кола аднадумцаў ды прывыкнуць не саромецца памылак у маўленні, а проста размаўляць.

Але што рабіць тым, хто вельмі хоча навучыцца чытаць і размаўляць па-беларуску, ды не мае магчымасці хадзіць на курсы, бо жыве далёка за межамі Беларусі ці ўвогуле аддае перавагу чытанню, а не жывой гутарцы? Адзін з варыянтаў — звярнуцца да мастацкай літаратуры ды слухаць песні па-беларуску. Але ёсць і больш эфектыўны спосаб — займацца па адмысловым падручніку. Не так даўно ў выдавецтве «Беларусь» пабачыла свет менавіта такая кніга. Праца Галіны Мыцык «По-белорусски? Пожалуйста! = Па-беларуску? Калі ласка!» абяцае ўсіх — студэнта, настаўніка, міністра, бізнесмена ці проста аматара-паліглота самастойна навучыць чытаць, пісаць і размаўляць на нашай роднай мове.





Дапаможнік уключае 20 урокаў, матэрыял у якіх падаецца паралельна на рускай і беларускай мовах. Падчас кожнага з урокаў вучань засвоіць порцыю ведаў па лексіцы, граматыцы, сінтаксісе. Адметныя і тэксты, падабраныя аўтарам для навучання мове, яны распавядаюць пра розныя аспекты жыцця беларусаў, важныя гістарычныя падзеі, што адбываліся на нашых землях, культурныя адметнасці народа. Разам з Ясем, героем пастаяннай рубрыкі «Ясь распавядае», а таксама тэкстамі з пазнакамі «Па-беларуску кажуць так» і «Кароткія размовы» вучні засвояць некаторыя асаблівасці беларускай мовы, пабачаць яе фанетычныя, граматычныя і лексічныя асаблівасці. У кнізе ёсць і вытрымкі з тэкстаў нашых пісьменнікаў, яны пазначаныя рубрыкай «Майстры слова гавораць». Магчыма, урывак з апавядання ці аповесці так захопіць некаторых вучняў, што ім захочацца прачытаць твор цалкам.

Цікава, што ўрокі ў дапаможніку Галіны Мыцык падаюцца ў адпаведнасці з граматычным і тэматычным прынцыпамі. Так, паводле задумкі, вучань спачатку знаёміцца з фанетычным, граматычным ладам беларускай мовы, вывучае часціны мовы, а ўжо потым атрымлівае магчымасць выкарыстоўваць свае веды, пры засваенні асобных тэм узбагачае слоўнікавы запас.

Напрыканцы выдання змешчаныя адказы да практыкаванняў і заданняў з кожнага ўрока (каб праверыць сябе ці ўсё ж даведацца, як сапраўды правільна), тут можна таксама знайсці кароткі беларуска-рускі слоўнічак, а таксама беларуска-рускі слоўнічак прыказак і прымавак (вось дзе раздолле аматару крылатых выслоўяў!).

Калі вы вельмі хочаце размаўляць па-беларуску, але саромеецеся недасканаласці валодання мовай, то гэтая кніга — выдатная магчымасць узбагаціць вашы веды і пазбавіцца ад страху дапусціць памылку.

**Марына ВЕСЯЛУХА**

*Штрыхі*

# Каралішчавічы



Голас высокага, хударлявага юнака зачароўваў. У вокны зазіралі заснежаныя сосны, а ва ўтульнай цёплай зале панавала засяроджаная цішыня. Вершы чытаў Алесь Разанаў. І было гэта ў Каралішчавічах, у Доме творчасці пісьменнікаў, на семінары маладых літаратараў.

Для мяне ўсё, што адбывалася тады, у снежаньскія дні 1969 года, было сапраўдным цудам. За спінай — першыя публікацыі ў полацкай газеце, дэбют у абласной газеце «Віцебскі рабочы», і вось — паездка на семінар, дзе сярод удзельнікаў — ужо знаёмыя па публікацыях у рэспубліканскім друку імёны, нават аўтары першых кніжачак паэзіі.

Усё здавалася незвычайным і чароўным. І драўляны дом сярод лесу, і расчышчаныя дарожкі, па якіх, паводле расповедаў, гуляў сам Якуб Колас, і сакавітая беларуская мова, на якой размаўлялі мае равеснікі, і літаратурныя мэтры, якія разглядалі творчасць кожнага… Слухаючы вершы таго ж Разанава, Віктара Яраца, Генадзя Пашкова, Леаніда Якубовіча, я адчуваў не толькі захапленне, але і пэўны сорам за свае ўласныя радкі, якія відавочна саступалі таму творчаму багажу, з чым прыехалі на семінар мае равеснікі.

Памятаю, пасля абмеркавання маіх паэтычных практыкаванняў, нечакана пачуўшы ухвальныя водгукі, быў на сёмым небе: як жа, мяне нібы далучылі да святога пісьменніцкага брацтва, да першых прыступак на высокі літаратурны Алімп. А яны, гэтыя «небажыхары», «насельнікі Алімпа», спускаліся на каралішчавіцкія гоні. І можна было проста пабалбатаць і пагутарыць з самімі Брылём і Шамякіным, Чыгрынавым і Адамчыкам. А кіраўніком семінара, «дзядзькам» маладых быў Тарас Хадкевіч, чый раман «Песня Дзвіны» я чытаў яшчэ ў чацвёртым класе.

Там жа ўпершыню сустрэўся і пагутарыў з Васілём Быкавам, які завітаў у Каралішчавічы, прыехаўшы з Гродна на пленум Саюза пісьменнікаў. Васіль Уладзіміравіч, пачуўшы, што я з Полацка, ажывіўся і загаварыў, што ў яго ўшацкім дзяцінстве, калі казалі, што трэба ехаць у горад, мелі на ўвазе менавіта Полацк. Праз шмат гадоў я атрымаў ад Быкава кнігу з аўтографам, дзе ён называў мяне сваім земляком.

А тады я глядзеў на слынных пісьменнікаў з няўтоеным захапленнем і таемнай марай калі-небудзь хоць крыху наблізіцца да іх высокай кампаніі. Гэта, дарэчы, адбылося аж праз дваццаць гадоў, калі ў Доме літаратара таемным галасаваннем на Прэзідыуме Саюза пісьменнікаў я быў прыняты ў шэрагі гэтай творчай арганізацыі.

На семінары я зблізіўся з маім равеснікам Лёнем Якубовічам, шахцёрам з Салігорска, шчырым, спагадлівым хлопцам, цікавым паэтам. Памятаю, мяне ўразіла, як сур'ёзна і адказна ставіцца Лёня да ўласнай творчасці, як шмат чытае і ведае. Забягаючы наперад, скажу, што нашы сяброўскія адносіны з таго часу працягваліся аж да самай трагічнай Лёнінай смерці, калі ён загінуў у шахце. Мы сустракаліся ў Мінску, калі абодва прыязджалі на сесію, бо вучыліся разам на факультэце журналістыкі БДУ, перапісваліся, дзяліліся планамі і задумамі.

Дзесяць незабыўных дзён у Каралішчавічах… Гарачыя спрэчкі і шчырыя знаёмствы, блуканне па лясных сцяжынах і зыркія іскры сяброўскіх вогнішчаў, светлыя мроі і палкія жаданні, захапленне і высокі палёт думкі. У Каралішчавічах я глыбей адчуў, якая багатая і паэтычная наша мова, якое харство тоіць у сабе роднае слова, як адказна трэба ставіцца не толькі да сваіх паэтычных ці празаічных радкоў, а таксама да айчыннай гісторыі, да ўсяго, што нараджае адчуванне прыналежнасці да Радзімы, усяго таго, што неабходна, каб быць сапраўдным яе грамадзянінам.

Каралішчавіцкія заснежаныя сосны… І сёння часта мроіцца мне той цудоўны час, тое шчырае сяброўскае сумоўе, тая высокая атмасфера духоўнасці і патрыятызму. І тое высокае шчасце адчуваць сябе сынам роднай зямлі, зямлі, якая дадзена нам лёсам, якую трэба берагчы і быць ёй верным заўсёды.

**Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ**

# З чаго складаецца жыццё?

Новая кніга Наталлі Саветнай «Пучок травы», што пабачыла свет сёлета ў Санкт-Пецярбургу, уражвае шчырасцю. Яна распавядае пра падзеі, якія адбываліся з героямі яе твораў у гады фашысцкай акупацыі Беларусі. Я сама з пакалення, якое памятае гэты час, а таму кніга пісьменніцы выклікала ў мяне адначасова пачуцці болю, удзячнасці і гонару за аднагодкаў, за наш народ, простых, але такіх шчодрых на дабрыню, моцных духам людзей.




Адкрывае кнігу апавяданне «Падранда». Дзіўная назва тлумачыцца проста: была да вайны такая вёска ў Гарадоцкім раёне на Віцебшчыне — трыццаць пяць двароў, больш як дзвесце чалавек. У лістападзе 1942 года фашысты спалілі Падранду разам з людзьмі. Але хіба толькі адну вёску напаткала такая доля? Сотні вёсак, тысячы людзей згарэлі... Аўтарка, перамяжоўваючы падзеі нашых дзён з ваеннымі, а таксама часам свайго школьнага дзяцінства, апавядае пра загінулых і пра геройства тых, хто выжыў у лютай акупацыі, піша пра памяць некалькіх пакаленняў, успамінае пра дзяцей і настаўнікаў, якія пра вайну распавядаць не любілі...

Ад аповеду да аповеду («Нябёсы на каромысле», «Як з нашай з вёскі...», «Пучок травы», «Падкоп») вядзе аўтарка чытача партызанскімі сцяжынкамі, па лагерных бараках, па лясах і гразкіх балотах, па вёсках Віцебшчыны. Каля сотні яркіх персанажаў ажываюць на старонках кнігі: партызан Васіль Міранчык, яго жонка Надзея, хлапчук Міша Камароў, пасля выкладчык гісторыі, дзяўчынка Любачка Косінец, з нараджэння празваная «настаўніцай»; малагадовая вязніца канцлагера для дарослых Іначка Каваленка, Васіль Хаўроў, які вярнуўся з фронту з ордэнам за перамогу над японцамі ў Маньчжурыі...

Спазніся Наталля Саветная ўсяго на месяц з выданнем кнігі «Пучок травы» (а яна выйшла да дня Перамогі), і ўжо ніколі б не ўбачыў яе былы настаўнік фізікі Хаўроў. Таму і спяшалася, таму і не паспела (прызналася, нібы павінавацілася пісьменніца на прэзентацыі кнігі ў Гарадку Віцебскай вобласці) распавесці яшчэ пра многіх-многіх сваіх землякоў.

Другая частка кнігі — «Пучок травы» — падборка мастацкіх нарысаў і рэцэнзій на творы вядомых пісьменнікаў, як беларускіх, так і расійскіх. Героі кніг, пра якія піша Н. Саветная, ды і самі іх аўтары — таксама дзеці-ўдзельнікі вайны. Гэта Анатоль Сульянаў (Мінск), Аляксандр Скокаў (Санкт-Пецярбург), Анатоль Сцяфашын (Саратаў), Генадзь Пацыенка (Масква — в. Зубакі Лёзненскага раёна Віцебскай вобласці).

Мяне асабліва зацікавілі нарысы пра маіх землякоў. Н. Саветная правяла паралелі паміж ваеннымі лёсамі гераічных людзей — вядомага паэта Ігара Грыгор'ева, які больш як дзесяць гадоў пражыў у Гарадку, і юнай маладагвардзейкі Ніны Старцавай, якая пакінула Гарадоцкі раён перад самай вайной разам з бацькамі. Чытала я нарыс «Спалі словы, каб захаваць матыў…» і ў які раз здзіўлялася подзвігам юнакоў і дзяўчат, здаецца, зусім яшчэ дзяцей. Міжволі падумалася, што маё пакаленне, апаленае ваенным ліхалеццем, вырасла загартаваным, мужным. А нашы дзеці, унукі?

Адказам на гэтае пытанне стаў нарыс, у якім выкарыстаны рэальныя дзённікавыя запісы ўдзельніка баявых дзеянняў у Афганістане, ліквідатара аварыі ў Чарнобылі Аляксандра Каваленкі — земляка і амаль аднагодка пісьменніцы. Дзённікі свайго загінуўшага мужа перадала Наталлі Саветнай яе даўняя прыяцелька Таццяна Каваленка. І вось цяпер яны здабылі жыццё на старонках кнігі «Пучок травы».

**Зоя ШАЛЫГА**

# Выхаванне вершамі

**Дзве кнігі вершаў Алены Басікірскай — «Споведзь» і «Песня мая душэўная» — засведчылі неспатольную прагу пачаткоўца да пошуку дакладнага і натхнёнага паэтычнага слова.**

Невыпадкова на вокладку першага зборніка аўтарка вынесла радкі, у якіх гучыць жаданне далучыцца да галасоў класікаў і прызнацца ў любові да паэзіі. Але, вядома, далучыцца да паэтычнага слова няпроста.

*Цябе ніколі нельга падмануць,*
*Табой ніколі нельга наталіцца.*
*Дазволь цябе да сэрца прыхінуць,*
*Дазволь табе, паэзія, скарыцца…*

Пра сваё захапленне паэтычным словам аўтарка гаворыць ледзь не ў кожным вершы, а там-сям дык нават праз радок: «Што такое верш?», «Вершу — шчасце», «Не пішу я вершы пад прымусам», «Шляхам верша»; «Слоўцам я ў мароз сагрэта. / З вершам — у творчай змове, / Як пясняр з адвечным светам»; «Я рыфмую слоўцы-вершы…/ Йдуць у свет яны з ахвотай./ Адзін — горшы. Другі — лепшы». Апошні радок — для парадыстаў. Дакладнасць і сціпласць слова даюцца вельмі няпроста, праз тое і ўзнікае манернічанне, слоўнае фехтаванне, радкі-забаўкі.

Вялікі «пакутнік слова» Гюстаў Флабэр не мог дапусціць, каб на адной старонцы паўтаралася не тое што фраза — прыназоўнік!.. У шаленстве кідаў на падлогу пяро, калі не ўдавалася справіцца са словам, гэтай «праклятай вадкасцю, якая ніяк не хоча прыняць небходную форму». У Алены Басікірскай замілаванасць паэзіяй і асабліва «гульня словам» падкупляюць. Але толькі тады, калі жыццёвыя ўражанні альбо «ўзлёты натхнення» па-сапраўднаму здольныя ўдушы «адстаяцца словам».

Як у Пушкіна ў вершы «Восень» цяжка пранікнуць у душу мастака, зразумець, чаму ён выбраў тое ці іншае слова. Прыклад тут — «Як рабіць вершы» Маякоўскага, сапраўдная і дасканалая лабараторыя паэзіі.

Многім нашым паэтам вельмі не хапае глыбокага пранікнення ў эстэтыку твораў, у разуменне адказнасці за кожнае сказанае слова. У зборніках Басікірскай ёсць неблагія абразкі прозы, асабліва тыя, у якіх сутыкаюцца светаўспрыманне старэйшага і малодшага пакаленняў. У вершаванай творчасці аўтарка шмат эксперыментуе, спрабуючы выступаць у жанрах верлібра, танку; дзе-нідзе чуюцца фальклорныя ноткі (дарэчы, даволі ўдалыя). Часам праглядваюцца «пакуты» над словам, але больш у радках свабоднага палёту, лёгкасці, нязмушанасці, вастрыні, шчодрай «рассыпістасці» слоў. Паэтка піша, як жыве, у ладзе з самой сабой і Сусветам. Гэта не значыць, як пісаў А. Плятнёў пра Мятлева, што ў яго за адзін добры верш трэба абавязкова «праглынуць» дзясятак «дрэнных». Пасрэдных, прахадных твораў альбо абсалютна бездапаможных у зборніках Басікірскай не знойдзеш.

Паэтка мае свой голас, сваю манеру пісьма, любіць слова дасціпнае, іскрыста-вогненнае, пранікнёнае, як у назвах зборнікаў, — спавядальнае і душэўнае. Пазней разумееш: калі аўтарка гаворыць, што яе вершы «саматужна тканыя», гэта бравада, спроба схаваць за традыцыйнай сялянскай нашаніўскай традыцыяй з яе «сярмяжнай праўдай». Радкі яе чуйныя, зачароўваюць цеплынёй, сардэчнасцю, шчырасцю, даверам.

*Вершы ненапісаныя,*
*Думкай напатканыя,*
*Дзе вы прыхаваныя,*
*У якой глушы?*
*Лёсам чараваныя,*
*Доляй не пазнаныя.*
*Саматужна тканыя*
*У маёй душы…*

І ўсё ж да чаго ж нашы маладыя паэты і паэткі любяць эксперыментаваць!

Мажліва, таму, што беларуская літаратура доўгі час знаходзілася наўзбоч ад пошукаў выразнасці слова, што адбываліся ў еўрапейскай, амерыканскай, японскай літаратурах?.. Існавала як бы ў засені мацнейшых суседзяў, і цяпер з апантанасцю і настойлівасцю, якія лепш было б накіраваць на выкрышталізацыю ўласнага майстэрства, «накідваецца» на нязвыклыя паэтычныя формы. Рэдка ў якога сучаснага аўтара не сустрэнеш такіх вершаваных форм, як верлібр, танку, хоку. Ёсць яны і ў Басікірскай. «Глядзець у вочы / Яго Вялікасці Слову — / Мой паратунак…» Прызнанне шчырае, сімптаматычнае. Але ж дзе тая метафара, «разбітая» на складнікі, што характэрная хоку? Ды і навошта адзін і той жа верш «укладаць» у розныя зборнікі?

Увогуле, у Басікірскай самыя ласкавыя, лагодныя пачуцці выяўляюцца да слова («Слоўца маё клапатлівае», «Да цябе малюся», «Паэт ад Бога — як дарога…», «А рыфма просіць светлага — кахаць», «Скручу сувой сваёй душэўнай шчырасці, / Каб вершам цела ў сцюжу захінаць», / Мой Божа, памажы ім крышку вырасці, / Малым балюча вельмі замярзаць».)

Натхненне існуе — але і праца над словам неабходная. Патрэбна веданне тэхнікі пісьма. Эстэтычны густ. Глыбокія назіранні. Высновы. І, бясспрэчна, — веды. Верш напісаць лёгка, але каб ён застаўся жыць — патрэбная праца над словам. Першы зборнік Алены Басікірскай намнога мацнейшы за наступны. Адбор твораў тут больш строгі. Але мы далёкія ад патрабавання, каб кожная новая кніга абавязкова была лепшай і рабілася новай прыступкай да вяршыні паэтычнай славы. Паэзія — гэта не гонкі па спіралі, дзе з кожным новым віткам узлятаеш вышэй і вышэй.

Паэтычным дарам валодаюць адзінкі. У А. Басікірскай ён ёсць. Можна зарыфмаваць сотні радкоў, але сапраўднага адкрыцця не зрабіць. Патрэбны позірк мастака, які ўмее «жывапісаць словам», неабходная яркая ідэя, вобразнасць. «Вершы нясуць думку», але незаўважна, як чалавек «нясе» ўласнае сэрца, не заўважаючы ношы. Павінны быць свая запамінальная інтанацыя, рытм, патрэбны нацыянальны характар у вершы. А самае галоўнае — біяграфія паэта: толькі жыццё дазволіць «пераплавіць» у вершы энергію пачуцця і біццё растрывожанага сэрца.

**Уладзімір НАВУМОВІЧ**

# Ашхабад — у маім сэрцы

**У Ашхабадзе жыў я ў самым цэнтры. Спярша на вуліцы Міхайлаўскай, праз дарогу — ЦК КП Туркменістана, пазней — на Атабаева, гэта крышачку ўглыб таго ж двара. І побач быў універсітэт — галоўная навучальная ўстанова рэспублікі. Таму зразумела, што паўсюль віравала моладзь. У крамах, кнігарнях, проста на вуліцы. Я таксама, вядома ж, тады не быў яшчэ дзедам. Што цікава: хоць у мяне ўжо і меўся «ромбік» ВНУ, але там, у Туркменіі, я праходзіў таксама своеасаблівыя ўніверсітэты. Так-так, універсітэты жыцця.**

Паколькі займаўся літаратурнай творчасцю, то мяне, безумоўна ж, цягнула да пісьменніцкага асяродка. На той час меў ужо і першую кніжачку апавяданняў для дзяцей «Хітры Данік», выдадзеную ў «Мастацкай літаратуры». Яна, вядома ж, служыла своеасаблівым козырам: варта было паказаць выданне туркменскім калегам, і стаўленне да мяне як да літаратара адразу ж мянялася: наш чалавек, давай будзем бліжэй знаёміцца. Так неўзабаве я абзавёўся ў Ашхабадзе новымі сябрамі.

Калі з Мінска пісалі мне Мікола Чарняўскі, Яўген Крупенька, Мікола Федзюковіч, з Гомеля — Міхась Даніленка, то тут, у Туркменіі, я меў стасункі з паэтамі Атамурадам Атабаевым, Азатам Рахманавым, Мухамедназарам Камекавым, Какамурадам Рэджэпавым і многімі іншымі. Спадзяюся, узгадаю іх далей. Хто быў студэнтам, а хто выкладчыкам у тых туркменскіх універсітэтах — сказаць не бяруся, але ведаю адно: вучоба праходзіла паспяхова. Мы вучыліся адзін у аднаго. Не толькі прыгожаму пісьменству, але і жыццёвай мудрасці.

Асабліва цеснае сяброўства завязалася ў мяне з паэтам Азатам Рахманавым. У той час ён працаваў адказным сакратаром дзіцячага часопіса «Піонер», а пазней узначаліў гэтае выданне. Я нярэдка забягаў да яго, нам было пра што пагаварыць. Тым больш што я жыў у доме нумар 19, а рэспубліканскі Дом друку размяшчаўся пад нумарам 20 на Атабаева. Суседзі. Дык вось, Азат распавядаў пра стан сучаснай туркменскай літаратуры, асабліва пра маладых аўтараў, а я яму — пра беларускіх паэтаў і празаікаў. Пазней пазнаёміў з ім Міколу Чарняўскага, які працаваў у «Бярозцы». І радаваўся, калі паміж двума слыннымі паэтамі завязалася сяброўства. Шчыра радаваўся, калі на старонках «Піонера» з'явілася падборка вершаў беларуса, калі «Бярозка» змясціла творы туркмена. Яны, здаецца, адной абменнай падборкай не абмяжоўваліся: калі не змяняе памяць, зрэдчас вершы гэтых аўтараў я сустракаў на старонках дзіцячых выданняў — і не толькі тых часопісаў, дзе самі працавалі.

Вядома ж, друкаваўся я таксама і ў «Бярозцы», і ў «Піонеры». Азат, ледзьве толькі я пераступаў парог, сустракаў заўсёды прыемнай, лагоднай усмешкай і, павітаўшыся, найперш цікавіўся: «Ці напісалася што новае?» Так я прапанаваў маленькую аповесць «Я — салдат!». Паколькі на маіх плячах ляжалі афіцэрскія пагоны, бо служыў у салдацкай газеце карэспандэнтам, то адпаведная і тэматыка твора. Неўзабаве некалькі ўрыўкаў з аповесці з лёгкай рукі Азата Рахманава пабачылі свет у часопісе. Ахвотна друкаваў ён і мае апавяданні, прытым чыста беларускія.

Што я маю на ўвазе? Іншы раз творца падладкоўваецца пад асяроддзе, дзе жыве, і жыве часова, хаця ягоныя карані далёка — у той жа Беларусі альбо Расіі. Але мае героі хадзілі па зямлі маіх бацькоў, у іх не толькі ўчынкі, але і імёны ды прозвішчы былі беларускімі. Азат, наадварот, падахвочваў, тактоўна выказваў сваю думку на гэты конт: «Нашым, туркменскім, дзецям таксама цікава ведаць, як жывуць іх равеснікі ў тваёй, Васіль, краіне».




*Аўтограф Міхася Карпенкі.*

У жніўні 1980 года я пакідаў сонечны і спякотны Ашхабад. Забег падаць руку на развітанне і Азату. На яго твары прачытаў, што ён не рады майму рашэнню, але паціснуў плячыма, па-сяброўску шчыра сказаў:

— Я цябе разумею. Я б, відаць, таксама не змог доўга жыць далёка ад Туркменіі. Не забывай.

Мы абняліся.

Пазней мой родны брат Міхась (ён яшчэ трыццаць гадоў пасля мяне жыў у Ашхабадзе) часта перадаваў ад Азата прывітанні. А што да брата, то ў сталіцу Туркменістана ён трапіў па размеркаванні яшчэ раней за мяне — пасля заканчэння Магілёўскага машынабудаўнічага тэхнікума. Там скончыў політэхнічны інстытут, абзавёўся сям'ёй, стаў добрым інжынерам-кіраўніком, а цяпер жыве ў Арле. Пра мяне і брата можна сказаць так: былі ў маці два сыны, адзін вучыўся ў Львове, а другі — у Магілёве… Адгадайце, дзе яны сустрэнуцца пасля заканчэння вучобы? Правільна, у Ашхабадзе.

Сёння я часта сустракаюся з чытачамі ў Гомелі. Але ж першая такая сустрэча адбылася менавіта ў Ашхабадзе. Не помню, што гаварыў работнікам швацкай фабрыкі, але добра помню, хто запрасіў мяне — Атамурад Атабаеў, на той час самы вядомы малады туркменскі паэт. Чым я прыглянуўся яму — не ведаю. Пазней я даведаўся, што А. Атабаеў узначаліў Саюз пісьменнікаў Туркменістана, і ў 1990 годзе я ўвайшоў у ягоны кабінет, як стары знаёмы. Было пра што пагаварыць, што ўспомніць.

Калі жыў у Ашхабадзе, часта сустракаў на вуліцы празаіка Ашыра Назарава, удзельніка Вялікай Айчыннай вайны. Заўсёды гутарылі, не спяшаліся разыходзіцца. Спакойны і ўдумлівы, пісьменнік прыгадваў маю Беларусь, якую вызваляў ад фашысцкіх захопнікаў.

> *Іншы раз творца падладкоўваецца пад асяроддзе, дзе жыве, і жыве часова, хаця ягоныя карані далёка — у той жа Беларусі альбо Расіі. Але мае героі хадзілі па зямлі маіх бацькоў, у іх не толькі ўчынкі, але і імёны ды прозвішчы былі беларускімі. Азат, наадварот, падахвочваў, тактоўна выказваў сваю думку на гэты конт: «Нашым, туркменскім, дзецям таксама цікава ведаць, як жывуць іх равеснікі ў тваёй, Васіль, краіне».*

У Ташаузе працаваў рэдактарам абласной газеты беларус Міхась Карпенка. Я ведаў яго па зборніках паэзіі, што выходзілі ў выдавецтве «Туркменистан», па публікацыях у часопісах і газетах. І мне, вядома ж, карцела сустрэцца з земляком. Узяў, такім чынам, камандзіроўку ў самую паўночную вобласць рэспублікі. Была сярэдзіна лета. Ліпень — самы спякотны месяц у тых мясцінах.

Надзвычай прыветна сустрэў мяне і Міхась Фядотавіч. Пад паветкай у прасторным двары рэдакцыі пілі чай, гулялі ў яго дома ў нарды, а потым сустракаліся яшчэ раз у Маскве на IX з'ездзе Саюза пісьменнікаў СССР, у 1992 годзе. Я быў дэлегатам ад Беларусі, Міхась Карпенка — ад Туркменіі. Пазней ён вярнуўся на сваю Хоцімшчыну, у бацькоўскую хату, а на мясцовых кладах знайшоў свой апошні прытулак. Мы паспелі яшчэ абмяняцца новымі кнігамі. Але я берагу і тую, што атрымаў не па пошце, а з ягоных рук у Ташаузе, — «Песня дутара», з цёплым аўтографам: *«Дорогому земляку, собрату по перу Василию Ткачёву на добрую память. 2.VII.79»*.

Кніга выдадзена сціпла, у ёй шмат вершаў, прысвечаных Туркменіі, і не менш тых, у якіх паэт вяртаецца да бацькоўскай зямлі, дзе нарадзіўся, адкуль пайшоў у свет. І куды потым вернецца. Вернецца хворым, нямоглым чалавекам. Мне яго было вельмі шкада. Але чым дапамагчы — не ведаў. Адно што мог зрабіць, дык напісаць яму пісьмо, падбадзёрыць.

Знаёмы быў я з рускамоўнымі паэтамі Юрыем Рабініным і Эдуардам Склярам. Іх, на вялікі жаль, не стала яшчэ ў час майго ашхабадскага перыяду. Карэец празаік Уладзімір Пу працаваў у газеце «Комсомолец Туркменистана», пазней стаў рэдактарам часопіса «Ашхабад». Часта згадваю паэтаў Вадзіма Зубарава, Святлану Піменаву, празаікаў Валянціна Рыбіна, Аляксандра Аборскага, Таісію Курдзіцкую, Барыса Ражнова, публіцыстаў Васіля Шаталава і Мікалая Залатарова… Не ведаю, як склаўся іх лёс, але ўсе яны жывуць у маёй памяці. Я захоўваю кнігі амаль кожнага з іх, берагу, перачытваю. І тады зноў вяртаюся ў Ашхабад, дзе прайшлі шчаслівыя гады маёй маладосці. Далёка засталіся ззаду, за спінай, але гэта толькі так здаецца. Ашхабад жыве ў маім сэрцы, і таму ён — блізка. Як і ўся Туркменія.

**Васіль ТКАЧОЎ**

# Паэзія па-караткевічаўску

**Філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта, дзе надта многа палымяных аматараў творчасці аднаго з самых яркіх беларускіх пісьменнікаў XX стагоддзя — Уладзіміра Караткевіча, 85-годдзе з дня нараджэння класіка адзначыў на свой, філалагічны, лад — вершамі. Таму якраз напярэдадні ўрачыстай даты на філфаку БДУ прайшлі паэтычныя чытанні.**

Асабліва прыемна, што ініцыятыву Вучэбна-навуковай лабараторыі беларускага фальклору і бібліятэкі філалагічнага факультэта ахвотна падхапілі не толькі студэнты ўніверсітэта, але і навучэнцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі, а таксама маладзейшыя канкурсанты — школьнікі. Кожны з іх меў магчымасць прадэкламаваць улюбёны верш са спадчыны класіка.

Удзельнікаў і гледачоў конкурсу сустрэла кніжная экспазіцыя з фондаў бібліятэкі філалагічнага факультэта, дзе можна было пабачыць выданні кніг У. Караткевіча розных гадоў, а таксама навуковыя працы, прысвечаныя жыццёваму і творчаму шляху пісьменніка. Выбітны даследчык літаратурнай спадчыны Караткевіча Анатоль Верабей, які прысутнічаў на імпрэзе ў складзе журы конкурсу, прадставіў аўдыторыі цэлы шэраг навуковых і мастацкіх выданняў. Літаратуразнаўца і перакладчык Міхась Кенька цікава распавёў пра малюнкі У. Караткевіча, а старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў падчас прамовы з цеплынёй згадаў сваю сустрэчу з Караткевічам у студэнцкія гады.

Кожны з выступоўцаў пастараўся данесці да аўдыторыі сваё бачанне абранага твора, сваё адчуванне вершаванага радка. Дзякуючы адпаведнаму аўдыявізуальнаму афармленню кожны нумар атрымаўся ўнікальным. Асабліва ўразіла журы і аўдыторыю эмацыянальнае, пранікнёнае выступленне студэнткі 4 курса філфака Аліны Агрэніч з вершам «Калумбы зямлі незнаёмай». Менавіта А. Агрэніч і перамагла ў конкурсе, атрымаўшы не толькі дыплом першай ступені ад журы, але і ўзнагароду «Выбар аўдыторыі». Дыплом другой ступені заслужана дастаўся студэнту БДУІР Дзянісу Клімовічу, які надзвычай артыстычна прадставіў верш «Беларуская песня». Трэцяе месца заняла студэнтка 1 курса юрыдычнага каледжа БДУ Алеся Якімовіч, якая кранула залу сваім прачытаннем верша «Багдановічу». Нельга не згадаць таксама і вучаніц СШ № 77 г. Мінска Валерыю Мурашка, Вольгу Счаснюк і Кацярыну Палтаеву, якія сваімі выступленнямі пад акампанемент скрыпкі аздобілі імпрэзу і надалі ёй завершанасці. Як слушна заўважыла член журы конкурсу, паэтэса і літаратуразнавец Ірына Багдановіч, уганараванне дыпломамі заслужылі ўсе выступоўцы — настолькі адказна кожны з іх паставіўся да падрыхтоўкі.

Наведвальнікі мерапрыемства мелі магчымасць паўдзельнічаць і ў акцыі «Малюнак для Караткевіча», дзе было прапанавана стварыць уласную ілюстрацыю да якога-небудзь твора пісьменніка. Лепшымі аказаліся студэнткі філфака Настасся Іонікава ды Надзея Дзямідка і студэнтка юрыдычнага каледжа Алена Акушка.

Усе ўдзельнікі атрымалі памятныя прызы, прычым пераможцаў чакаў прыемны сюрпрыз — тамы са збору твораў У. Караткевіча. Верыцца, што Караткевічаўскія чытанні на філфаку стануць добрай традыцыяй і штогод будуць збіраць аматараў вершаванага радка.

**Маргарыта ЛАТЫШКЕВІЧ**

# У пошуках ідэальнага чытача

**«Настаўнік не можа марыць пра ідэальнага вучня, таму што ідэальны вучань заўсёды лепшы за настаўніка, з-за чаго той у глыбіні душы адчувае сваю недасканаласць. Гэтаксама як хірург не можа марыць пра ідэальнага хворага, бо ідэальны хворы — гэта, як вядома, той, хто хворы невылечна, а які хірург гатовы прызнаць сваю прафесійную бездапаможнасць?» Так пачынаецца апавяданне «Ідэальны чытач», якое Алесь Бадак напісаў, натхнёны паездкай у Туркменістан. Алесь Мікалаевіч распавёў нам пра тое, як стваралася гэтае апавяданне, чым адрозніваюцца літаратурныя кухні Беларусі і Туркменістана, як пазбегнуць цяжкасцей перакладу і знайсці свайго ідэальнага чытача.**



### УСЁ ПАЧЫНАЕЦЦА... З КУХНІ!

— Бывае, што апавяданні ствараюцца па падгледжаным ці падслуханым сюжэце, на які пасля нанізваюцца дыялогі, думкі, разважанні. А бывае наадварот: сюжэта яшчэ няма, але ёсць цікавыя ідэі, якія не пакідаюць. Апавяданне «Ідэальны чытач» адносіцца якраз да апошняга выпадку. Кожнага творцу непакоіць пытанне, хто такі ідэальны чытач, глядач, слухач. І я не ведаў, як усе гэтыя думкі і развагі афарміць у стройны сюжэт, пакуль не трапіў у Ашхабад на міжнародную кніжную выстаўку. Амаль цэлы тыдзень пражыў у лепшай гасцініцы горада, якая ў апавяданні і фігуруе. Больш за ўсё мяне ўразіла сваёй незвычайнасцю туркменская кухня. І раптам я зразумеў, чаго не хапала, каб з'явіўся сюжэт даўно задуманага твора. Мае думкі круціліся вакол літаратуры, мастацтва, а гэтая паездка схіліла мяне крыху ў іншую плоскасць. У кожнай сферы ёсць ідэальныя спажыўцы таленту, калі гэты талент, безумоўна, ёсць.

У кухні нават слова такога не прыдумана. Ідэальны хто? Для каго працуе кухар? Гурман, але гэта крыху іншае. Я нават не ведаю, як такога чалавека назваць. І пасля сюжэт пабудаваўся лёгка, нібыта сам сабою.

Хаця пісалася апавяданне вельмі доўга. Нават падчас працы над тэкстам я не ведаў, якім будзе фінал. Гэта было для мяне нешта новае, таму і складанае. З аднаго боку, пісаў пра вядомыя сферы — літаратуру і мастацтва, а з іншага — быў далёкі ад тэмы нацыянальных кухань, не ведаў спецыфікі, таму давялося чытаць шмат энцыклапедый, шукаць інфармацыю, якая датычыць не толькі кухні, але і характару народа. Тут вельмі важная прывязка да менталітэту. Мне дапамагалі розныя людзі, не толькі туркмены. Адным з кансультантаў быў Чынгіз Аліаглу — вядомы азербайджанскі паэт. Ён распавядаў пра асаблівасці туркменскай і азербайджанскай кухні, чым яны адрозніваюцца. Гэты сюжэт пацягнуў за сабой шмат нечаканых паваротаў, абрастаў новымі дэталямі, якія я нават не мог уявіць пры задумцы. Апавяданне атрымалася невялікае, хоць і пісалася на працягу некалькіх гадоў. Я яго пісаў не для сябе. Я не веру тым людзям, якія кажуць, што пішуць для сябе. Тэкст атрымаўся асабістым, унутраным, але аказалася, што праблема ідэальнага чытача цікавая не толькі мне і не толькі ў Беларусі.

### ПРА ГУСТЫ НЕ СПРАЧАЮЦЦА

— Чым адрозніваюцца літаратурныя кухні нашых краін? Калі казаць вобразна, то ў першую чаргу спецыямі. Туркменская літаратура вельмі незвычайная, з тонкім усходнім водарам, вастрынёй, што надае асаблівы смак — таму філасофская, афарыстычная. Беларуская літаратура ўсё ж такі больш мяккая, вобразная. Але ў любой літаратуры, дзе б яна ні нараджалася: у Еўропе, Афрыцы, Азіі — ёсць шмат агульнага, зразумелага ў любой краіне свету, і тое, што блізка толькі пэўнай нацыянальнасці, рэгіёну. Дзе б аўтар ні жыў, пра які народ ён ні пісаў бы, ён падымае адны і тыя ж праблемы: любоў, нянавісць, душэўныя перажыванні — што блізка кожнаму, тое, што актуальна сёння, што было актуальна 500 гадоў таму і будзе актуальна ў будучыні. Іншая справа — сказаць тое, што не змаглі сказаць папярэднікі ці сучаснікі. Хоць сусветная літаратура вельмі багатая, жыццё і чалавечая душа хаваюць яшчэ безліч таямніц. Дзякуючы гэтаму літаратура жыве і развіваецца. Нельга сцвярджаць, што літаратура скончылася на Шэкспіру, Талстым і Купалу. Яна працягваецца, з'яўляюцца новыя імёны, якія высвечваюць у чалавеку нешта новае.

Цяжка сказаць, што аб'ядноўвае беларусаў і туркменаў. Але ў нас кожны год у межах Дня беларускага пісьменства праходзіць міжнародны «круглы стол», куды запрашаюцца творцы з розных краін свету, многія з іх становяцца нашымі частымі гасцямі. Людзі часам не ведаюць ні рускай, ні беларускай мовы. Я таксама не ведаю родных моў, на якіх размаўляюць нашы госці. Але калі мы часам аказваемся без перакладчыкаў, то вельмі лёгка разумеемся адзін з адным. Нас раздзяляюць не толькі межы між краінамі, раздзяляюць нас межы паміж сэрцамі, мы проста не ведаем адзін аднаго. І ў гэтым плане роля літаратуры выключная, яна збліжае народы.

**Дар'я ЛАТЫШАВА**

---

*Фоташтрых*

## Сляды на пяску вечнасці

**Сёння, калі праект «Сугучча сэрцаў», які ажыццяўляўся Выдавецкім домам «Звязда» пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ужо завершаны, прыгадваюцца асобныя яркія моманты: прэзентацыі, сустрэчы з чытачамі, знаёмствы з творамі і лёсамі розных аўтараў з такіх далёкіх і блізкіх нам краін. Паводле задумкі серыі, чытачы з Беларусі і краін СНД атрымалі цэлую паліцу выданняў, прысвечаных прадстаўленню кожнай з літаратур Садружнасці поруч з нашай, беларускай.**

А сёмым томам у серыі «Сугучча сэрцаў» стаў зборнік «Беларусь — Туркменістан. Святая любоў», ён пабачыў свет у 2013 годзе. У гэтай кнізе побач з творамі беларускіх пісьменнікаў надрукаваны вершы і проза туркменскіх мастакоў слова Агагельды Аланазарава, Атамурада Атабаева, Асмана Одэ, Аразгулы Анаева, Гурбаназара Аразгулыева, Гурбаніяза Дашкынава, Камека Куліева, Бібі Араздурдыевай, Худайберды Дзіванкуліева, Касыма Нурбадава. Так, нягледзячы на вялікія геаграфічныя адлегласці, нашы краіны, народы, літаратуры сталі бліжэй. Духоўна, эмацыянальна, паядналіся сэрцамі і любоўю.



Фота Кастуся Дробава.

Падчас прэзентацыі кнігі «Беларусь — Туркменістан. Святая любоў» серыі «Сугучча сэрцаў». 2013 г.

---

## Усміхаемся разам з вялікімі

**Знаўцы біяграфій выбітных асоб добра ведаюць, што многім з іх было ўласціва выдатнае пачуццё гумару.**




«Вожык» прапаноўвае ўпэўніца ў гэтым сваім чытачам, размясціўшы на старонках часопіса міні-кніжку «Вялікія жартуюць». З яе вы даведаецеся, чаму Марку Твэну трэба было дасылаць вершы па пошце, якімі псеўданімамі падпісваліся Ільф і Пятроў, каго Альберт Эйнштэйн з сарказмам назваў «калегам» і многа-многае іншае.

Не адстаюць ад вялікіх у справе гумару нашыя пастаянныя аўтары: Анатоль Зэкаў, Валянціна Бабко-Аляшкевіч, Людміла Юшына, Аліна Легастаева, Аляксандр Матошка, Аляксей Русіновіч, Надзея Несцяронак. Да дружнага хору паэтаў-гумарыстаў далучаецца з вершаванымі мініяцюрамі Уладзімір Цанунін, а Міхась Мірановіч прэзентуе новую кнігу «Жартачак» з традыцыйнымі лаканічнымі міранізмамі.

«Вожык» з задавальненнем віншуе класікаў-юбіляраў — Андрэя Макаёнка і Уладзіміра Караткевіча. Першы з іх адкрывае «Тайну храма», запрашаючы ў навуковую лабараторыю, а другі смяецца з зайца, які варыць піва, разважае «Адносна паходжання бюракратызму» і знаходзіць плюсы ў «Склерозе».

Жартоўныя вобразы ствараюць мастакі-карыкатурысты Аляксандр Каршакевіч, Алясандр Пятроў, Уладзімір Чуглазаў, Алег Папоў, а Аляксандр Зазуля запрашае на «Фотавернісаж».

**Вераніка МАНДЗІК**

---

*Конкурсы*

## Стыпендыі са Швейцарыі

Аддзяленне Пасольства Швейцарыі ў Мінску мае гонар паведаміць, што Асацыяцыя Перакладчыцкі дом (Лорэн, Швейцарыя) пры падтрымцы Швейцарскага савета па культуры «Про Гельвецыя» і Фонду С. Фішэра прапануе стыпендыі для перакладчыкаў Лорэн і стыпендыю Карла Голенштайна. Да ўдзелу ў конкурсе на атрыманне стыпендыі запрашаюцца прафесійныя літаратурныя перакладчыкі, якія перакладаюць мастацкія творы швейцарскіх пісьменнікаў на беларускую, рускую ці ўкраінскую мову. Мовай арыгінала можа стаць адна з чатырох афіцыйных моў Швейцарыі.

У 2016 г. будуць выдадзены чатыры стыпендыі Лорэн і адна стыпендыя Карла Голенштайна. Кожная стыпендыя памерам чатыры тысячы швейцарскіх франкаў прадугледжвае знаходжанне стыпендыята ў Перакладчыцкім доме Лорэн на працягу аднаго месяца. Аплата праезду забяспечваецца швейцарскім бокам. Дакументы прымаюцца да 31 студзеня 2016 г.

*Translation House Looren*
*8342 Wernetshausen*
*Switzerland*
*+41 43 843 12 43*
*info@looren.net*
*www.looren.net*

# Не страціць, не забыць сваю культуру

**У межах Рэспубліканскага фестывалю творчасці замежных студэнтаў устаноў вышэйшай адукацыі «*F.-ART.by*» ў Беларусі мастацкая галерэя «Універсітэт культуры» запрашае наведаць выстаўку мастацкіх работ «Грані творчасці».**



Сеід Юмудаў «Вясновы букет». Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт.

Гэты выставачны праект універсальны, бо ў аснове экспазіцыі прадстаўлены творы жывапісу, графікі, фатаграфіі, дробнай пластыкі студэнтаў беларускіх вышэйшых навучальных устаноў з розных куткоў свету. Кожная краіна адметна прадставіла сябе на адкрыцці выстаўкі. Студэнты не толькі прэзентавалі свае работы, а спявалі песні на родных мовах, тым самым запрашаючы наведвальнікаў ячшэ глыбей зразумець культурныя адметнасці сваіх народаў.

Вялікую цікавасць наадкрыцці выклікала зала, дзе размешчаны творы студэнтаў з Туркменістана, якія вырашылі не абмяжоўвацца толькі жывапісам альбо керамікай. Іх выставачны куток зусім не падобны да іншых: прыгожыя дзяўчаты ў нацыянальных касцюмах (студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта) паказваюць гасцям вышыўку, нацыянальныя строі, галаўныя ўборы для мужчын і жанчын, маляўнічыя дываны, вязаныя панчохі, шкарпэткі і нават чахлы для мабільных тэлефонаў. У межах выстаўкі можна было прыняць удзел у майстар-класе па туркменскім пляценні. А ў жывапісе прадстаўнікі Туркменістана натхняюцца коньмі. Серыя карцін з выявай высакародных жывёл выглядае арганічна побач з каларытнымі пейзажамі. Маладыя творцы расказалі гасцям пра сваю культурную, студэнцкую дзейнасць у розных гарадах Беларусі.

Прарэктар па навуковай рабоце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, кандыдат філасофскіх навук, прафесар Віктар Языковіч заўважыў:

— Наш універсітэт паважае замежных студэнтаў і заўсёды стараецца дапамагчы ім рэалізавацца сябе, бо вельмі важна, апынуўшыся ў іншай краіне, не страціць, не забыць сваю культуру, а, наадварот, здолець паказаць яе індывідуальнасць. Калі гаварыць пра сённяшнюю выстаўку, то варта падкрэсліць намаганні студэнтаў з Туркменістана. У іх работах удала спалучаюцца сучасныя тэхналогіі і каранёвая сістэма каштоўнасцей. Заўважная культурная дынаміка: паспяхова пераплятаюцца лініі традыцыйнасці з элементамі мадэрнізацыі.

Дырэктар мастацкай галерэі «Універсітэт культуры», магістр культуралогіі Павел Сапоцька расказаў пра адбор прадстаўленых работ і далейшыя планы супрацоўніцтва з замежнымі студэнтамі:



Фота Вікторыі Аскера.

Студэнткі Мінскага дзяржаўнага лінгвістычнага ўніверсітэта прадстаўляюць сваю краіну на выстаўцы «Грані творчасці».

— Мы вельмі рады, што атрымалася арганізаваць настолькі шматгранны, цікавы праект. Мы запрасілі замежных студэнтаў амаль усіх беларускіх вышэйшых навучальных устаноў узяць удзел у нашай выстаўцы і атрымалі водгукі на гэту ідэю. Пасля экспертная камісія, у якую ўвайшлі прадстаўнікі музеяў, мастацкіх галерэй, грамадскіх арганізацый, ажыццяўляла адбор цікавых работ на аснове пэўных крытэрыяў. Вялікая колькасць экспанатаў належыць туркменскім аўтарам, што паказвае высокі мастацкі ўзровень работ і актыўны ўдзел Туркменістана ў культурнай дзейнасці нашай краіны. Сёння гэтыя студэнты не проста прадставілі жывапіс альбо фатаграфію, а сур'ёзна і актыўна падышлі да магчымасці выступіць на адкрыцці выстаўкі — удзельнічалі ў падрыхтоўцы вакальна-інструментальных нумароў. Існуе верагоднасць, што праз некаторы час наша галерэя паспрабуе арганізаваць сумесны беларуска-туркменскі праект. Мы вельмі зацікаўлены ў такім супрацоўніцтве.

Выстаўка «Грані творчасці» атрымала водгук не толькі ў замежных студэнтаў — беларускія студэнты таксама зацікавіліся экспазіцыяй. Магчыма, гэты факт і стане наступным крокам да падрыхтоўкі новага сумеснага праекта.



Аратджан Шаджанаў «Волат». Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя А. Куляшова.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Быць талісманам

**Туркменістан вядомы на ўвесь свет сваімі прыгожымі і лёгкімі дыванамі, якімі захапляўся яшчэ еўрапейскі вандроўнік Марка Пола ў далёкім сярэднявеччы. Створаныя рукамі майстрых розных плямёнаў, квяцістыя пакрывалы з воўны, шоўку і бавоўны па сённяшні сімвал нацыі, адно з самых развітых рамёстваў у краіне. Дыван праходзіць побач з туркменам усё яго жыццё як магутны талісман.**



У Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь знаходзяцца два помнікі туркменскага дыванаткацтва наўпрост з XIX стагоддзя — турба, своеасаблівы мяшок старажытнага племені салоры, і ўпрыгожванне на спіну вярблюда пад назвай асмалдык, які належыць аднаму з самых паважаных родаў — ямуды.

Гэтыя невялікія гаспадарчыя, але ў той жа час дэкаратыўныя дываны служылі для ўпрыгожвання юрты: іх вешалі на сцены, клалі на падлогу, імі аздаблялі купал і дзверы жылля. Такім чынам, ахоўная функцыя ўдала спалучалася з эстэтычнай.

«Кожны туркменскі дыван выяўляе рысы таго ці іншага племені. Майстрыхі імкнуліся, каб матывы на іх ткацкіх творах не паўтараліся. Паколькі плямёнаў было шмат, то ў кожнага існавалі свае правілы кампазіцыі. Нягледзячы на працаёмкую тэхніку, ткачыхам удавалася стварыць свой адмысловы, непаўторны стыль», — распавяла вядучы навуковы супрацоўнік — захавальнік Нацыянальнага мастацкага музея Наталля Калашнік.

Паводле яе слоў, галоўным у афармленні дывана з'яўляецца цэнтральны матыў — гёль, альбо кветка. Геаметрычныя арнаменты вакол адлюстроўвалі сімвалічныя межы паміж плямёнамі. Васьмікутнік, як на турбе, дарэчы, сімвалізуе кола жыцця. Так ткачыха адлюстроўвала свае думкі пра зямлю, дзе жыве, месцы, дзе вандруе і спыняецца на начлег яе сям'я...



«Цікава, што ніткі для дываноў браліся толькі авечыя, прычым тонкага вырабу, далікатныя і эластычныя. А рабіліся з воўны тых жывёл, якіх пастрыглі строга ў вясновы час. Аснова — з бавоўны, а сярэдзіна ўключала як ваўняныя, так і шаўковыя дапаўненні. Ключавым колерам служыў чырвоны, часта сустракаўся таксама карычневы. Ніткі афарбоўвалі натуральнымі матэрыяламі — сокам раслін. Напрыклад, пунсовага адцення дамагаліся з дапамогай марэны», — распавяла Наталля Калашнік.

Мастацтва туркменскага дыванаткацтва вядома яшчэ з глыбокай старажытнасці, а нарадзілася ў качавых плямёнаў, якія пераходзілі з месца на месца па пустынях і стэпах. Сакрэты арнаментаў перадаваліся вусна з пакалення ў пакаленне. Дарэчы, гёлі пяці асноўных туркменскіх радоў змяшчаюцца на сучасных гербе і сцягу краіны. А ў апошні дзень мая ў Туркменістане адзначаецца... свята дывана!

Туркмены ўпэўненыя, што дыван вызначае сацыяльнае становішча кожнага грамадзяніна, увасабляючы яго матэрыяльны дабрабыт.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Вялікі шаўковы шлях: заснаванне

## Беларус і таджык напісалі раман пра старажытныя Туркменістан і Кітай

**Беларускі часопіс «Нёман» публікаваў нататкі нашага земляка Леаніда Чыгрына, які жыве ў Душанбэ, пра яго дачыненне да Беларусі, пра тое, як яго сям'я апынулася ў Сярэдняй Азіі.**

Нагадаем, што Леанід Чыгрын — расійскі пісьменнік, перакладчык, публіцыст, кінасцэнарыст, які жыве і працуе ў Душанбэ (Таджыкістан). А нарадзіўся ў 1942 годзе ў Беларусі, на Віцебшчыне. Маці была ўдзельніцай антыфашысцкага падполля, апынулася ў нямецкім канцлагеры. Хлапчука выхоўвала бабуля. Калі вайна скончылася, маці вярнулася дадому. Здароўе было падарвана. Дактары параілі змяніць клімат. Так маладая жанчына з малым дзіцем апынулася ў Таджыкістане. А яшчэ раней туды выправілася старэйшая сястра беларускай падпольшчыцы. У 1946 мама Лёні Чыгрына памерла, і хлапчука выхоўвала цётка. Неўзабаве вярнуўся з войска бацька. Але сям'ю напаткала яшчэ адна страшная бяда: Мікалай Чыгрын загінуў у шахце...

Прайшлі гады. З хлапчука, які зрадніўся з Таджыкістанам, выдатна вывучыў таджыкскую мову, вырас таленавіты журналіст і пісьменнік. Многія творы Рахіма Джаліла, Фазлідзіна Мухамадзіева, Хаджы Садыка, Алімхона Рабіева, Ато Хамдама ды іншых таджыкскіх паэтаў, празаікаў, драматургаў сталі вядомыя ў перакладзе на рускую мову дзякуючы менавіта Леаніду Чыгрыну.

Але вось і ў тых «нёманскіх» запісках слаба прыадкрываецца лёс літаратара як актыўнага працаўніка на ніве гістарычнай раманістыкі. Якраз пра гэта і хацелася б распавесці. У суаўтарстве з вядомым таджыкскім раманістам Ато Хамдамам у апошнія гады наш зямляк працуе над шырокамаштабным творчым праектам «Таямніцы гісторыі». Адкрыў жа серыю займальных, дынамічных твораў гістарычны раман у дзвюх частках «Жыццё Чжан Цяня, або Вялікі шаўковы шлях». У цэнтры аповеду, ужо выдадзенага на таджыкскай, рускай ды кітайскай мовах (і рыхтуецца да выдання на туркменскай), — лёс неардынарнага чалавека, заснавальніка Вялікага шаўковага шляху. Выправіўшыся шукаць саюзнікаў для Кітая, у 138 годзе да нашай эры, Чжан Цянь трапіў у палон да гунаў. Пасля дзесяці гадоў рабства, звязанага з многімі няпростымі, цяжкімі выпрабаваннямі, мужны падарожнік трапіў у Бактрыю.

І многія ідэі будучага Вялікага шаўковага шляху атрымалі сваю рэалізацыю на тэрыторыі якраз цяперашняга Туркменістана. Чытаем у рамане Леаніда Чыгрына і Ато Хамдама: «Пасол кітайскага імператара і правадыр племені бактрыйцаў моўчкі глядзелі на звілістую лінію Вялікага шаўковага шляху, намаляваную на гладкім пяску ля іх ног.

— Я перанясу гэты чарцёж на паперу і пакажу імператару, — сказаў Чжан Цянь. — Вялікі шаўковы шлях стане мостам, які злучыць не толькі далёкія краіны, але і людскія сэрцы».

Вырваўшыся з палону, набраўшыся сіл у Бактрыі, Чжан Цянь прыбыў у старажытны Марв (так, гэта — Мары, тэрыторыя цяперашняга Туркменістана), «найбагацейшы горад, вядомы ва ўсім свеце». Яшчэ яго называлі Шахуджахан, мясціна цароў. Спадарожнікам кітайскага пасла былі таварыш па рабстве — славянін Ганьфу (пра сябе ён казаў: «Мая радзіма блізу ракі Волгі. Я са славянскага племені драўлян») і юны бактрыец Шэрак... Караван, разам з якім вандроўцы ўваходзілі ў горад, рухаўся ўздоўж крапаснай сцяны. Ганьфу спытаў



*Леанід Чыгрын.*

у свайго таварыша, ці падобна гэтае збудаванне да Кітайскай сцяны. І вось што пачуў у адказ: «...наша магутнейшая. Гэтая, як сказаў караван-Башы, цягнецца на сорак усходніх фаратаў. Але калі наша ахоўвае Кітай толькі ад ворагаў, то гэтая і ад пустыні.

— Як так? — здзівіўся Ганьфу.

— Яна не пускае пясок углыб аазіса.

— А малайцы! — захапіўся Ганьфу. — Адразу відаць, што тут цярплівыя і ўмелыя майстры. А вунь наперадзе і вароты. Чжан Цянь, я ўсё думаю, што ж гэта за краіна?

— Мне здаецца, мы трапілі да ўладароў пяскоў — парфян, — азваўся Чжан Цянь. — Я чуў пра іх у сябе на Радзіме і пра багаты горад Марв. Гэта моцны і горды народ. Яны ніколі не здраджваюць сябрам і бязлітасныя да ворагаў...»

Забягаючы наперад, хачу заўважыць: раман Леаніда Чыгрына і Ато Хамдама напісаны вельмі дынамічна. Героі і падзеі паказаны выпукла, рэльефна. Нават першае прачытанне кнігі пераконвае: перад намі — аснова кінасцэнарыя. Фільм пра зараджэнне Вялікага шаўковага шляху і пра кітайскага пасла, несумненна, мог быць цікавы і туркменскаму гледачу. Вось бы зрабіць такую стужку разам — Беларусі, Туркменістану, Кітаю і Таджыкістану!..

...У першыя гадзіны ў старажытным горадзе падарожныя сустрэліся з начальнікам варты Гельды. Спачатку той выказаў сумнеў у паўнамоцтвах Чжан Цяня. Маўляў, няма з ім світы, бедна апрануты. Давялося зноў распавядаць пра рабства ў гунаў, пра паўнамоцтвы, выдадзеныя яму кітайскім імператарам. Выклікала падазрэнне і зусім не азіяцкая знешнасць Ганьфу. Але ў Чжан Цяня захавалася пасольскае жазло. І валадар Марва прыняў пасла, арганізаваў урачыстую цырымонію. Паступова халадок недаверу растаў. Начальнікам варты было даручана пазнаёміць чужаземцаў з горадам... Казачны Марв уразіў Чжан Цяня і яго спадарожніка. «...Гельды паказваў ім палацы ды іншыя будынкі, якія насілі адбітак вялікага таленту дойлідаў. Блішчалі адпаліраваныя да люстранога бляску калоны, цагляныя сцены адгукаліся звонам на дотык рук...» Захапляючыся архітэктурнымі дзівосамі, Ганьфу заўважыў, што ўсё добра, але ўжо надта горача... Тады Гельды запрасіў учорашняга вязня гунаў у шырокі прысадзісты будынак...

«— Што там? — здзівіўся Чжан Цянь.

— Гэта яхтанга, — патлумачыў Гельды. — У такіх будынках мы захоўваем снег. Там выкапана глыбокая яма, і ў тыя рэдкія дні, калі ён выпадае, мы запаўняем снегам яму даверху. Потым закрываем яе чарацянымі цыноўкамі і вярблюджай калючкай. У яхтангах снег захоўваецца да наступнай зімы.

— Там вельмі холадна?

— Не вельмі, але розніца тэмператур вялікая. Нават вельмі моцны чалавек не вытрымае ў яхтанзе і паўгадзіны.

І дакладна, ужо праз некалькі хвілін дашчаныя дзверы затрашчалі, але трывалая засаўка ўтрымала яе. Тады Ганьфу наваліўся знутры на дзверы ўсім сваім магутным целам, засаўка пераламілася напалову, і спадарожнік Чжан Цяня, які стукаў зубамі ад холаду, выскачыў на сонца.

— Ух, харастве! — ускрыкнуў ён, стоячы на санцапёку. — Я зразумеў, гэта ваш склеп. Але навошта ён вам?

— Захоўваем мяса, ды і ці мала навошта можа спатрэбіцца холад, — пацікнуў плячыма Гельды...»

> *Раман Леаніда Чыгрына і Ато Хамдама напісаны вельмі дынамічна. Героі і падзеі паказаныя выпукла, рэльефна. Нават першае прачытанне кнігі пераконвае: перад намі — аснова кінасцэнарыя. Фільм пра зараджэнне Вялікага шаўковага шляху і пра кітайскага пасла, несумненна, мог быць цікавы і туркменскаму гледачу.*

> *У цэнтры аповеду, ужо выдадзенага на таджыкскай, рускай ды кітайскай мовах (і рыхтуецца да выдання на туркменскай), — лёс неардынарнага чалавека, заснавальніка Вялікага шаўковага шляху.*

Пазнаёмілі гасцей і з будынкам, у якім быў глыбокі калодзеж, поўны вады: сардоба — сцены ў ёй пацеюць ад знешняй спёкі, і вада, кропля за кропляй, сцякае ў калодзеж, таму заўсёды свежая і прахалодная.

Адкрыццём для падарожнікаў стала знаёмства з бібліятэкай Марва. Шкада, што ў рамане Л. Чыгрына і А. Хамдама гэтаму эпізоду адведзена ўсяго толькі два невялікія раздзелы. Не забывайце: падзеі адбываюцца ў 126 годзе да нашай эры. Давайце правядзём некаторыя паралелі... Бібліятэкі існавалі яшчэ за 2 тысячагоддзі да нашай эры — на гліняных таблічках. У I стагоддзі да нашай эры Александрыйская бібліятэка, заснаваная Пталямеем, налічвала да 700 тысяч тамоў. Бібліятэка ў Пергаме, заснаваная ў III стагоддзі да нашай эры, да сярэдзіны I стагоддзя да нашай эры складалася з 200 тысяч рукапісных кніг. Вялікія зборы (паперу тады замяняў шоўк) у III стагоддзі да нашай эры былі і ў Кітаі. У 213 годзе да нашай эры пры імператары Цынь Шыхуандзі нават спалілі вялікую колькасць канфуцыянскіх кніг. І тады, выходзіць, культурай кіравала палітычная барацьба.

«У далёкім Кітаі не менш уразіліся б і расповедам пра дзіўную бібліятэку Марва, — вядуць свой аповед Л. Чыгрын і А. Хамдам. — Ідучы па яе прасторных пакоях, дзе гулка разносіліся іх крокі, Чжан Цянь і Ганьфу са здзіўленнем разглядалі мноства драўляных разьбяных куфраў, у якіх захоўваліся рукапісныя скруткі.

Стары згорблены бібліятэкар паказваў пальцам то на адзін, то на другі куфар, і, падпарадкоўваючыся жэстам, Ганьфу асцярожна прыўзнімаў цяжкія вечкі. Бібліятэкар беражліва вымаў пажаўцелыя пергаменты.

— Гэта творы Арыстоцеля, а гэта працы нашых усходніх навукоўцаў. Вось трактаты па логіцы, па медыцыне, па матэматыцы... А вось гэтаму скрутку ты, пасол, здзівішся да глыбіні душы.

Чжан Цянь разгарнуў скрутак і ўгледзеўся ў клінапісныя значкі, што выстраіліся на гладкай пергаментнай паверхні.

— Што гэта?

— Гэта «Гутаркі і меркаванні» кітайскага мудраца Канфуцыя.

— Як? — закрычаў Чжан Цянь, прыціскаючы скрутак да грудзей. — Што ты кажаш, стары?! Ці магчыма ў самым сэрцы пустыні, за тысячы лі ад Кітая ўбачыць «Лунь юй» нашага вялікага Кун-цзы!

Звычайная заспакоенасць пакінула Чжан Цяня, і ўражаны Ганьфу ўпершыню за многія гады ўбачыў на вачах свайго сябра блісчучыя слёзы...»

У Марве, знайшоўшы сяброў і прыхільнікаў, кітайскі пасол яшчэ больш пераканаўся ў правільнасці ідэі, вынашанай у Бактрыі. Дарэчы, адзін з раздзелаў рамана — пра сустрэчу пасла з легендарнымі туркменскімі аргамакамі.

Пакідаючы Марв, галоўны герой апавядання Л. Чыгрына і А. Хамдама жыў надзеямі... «Чжан Цянь з вялікай цеплынёй успомніў пра новых сяброў. Іх бескарыслівасць, ветлівасць і тонкі розум прыемна здзівілі і парадавалі яго. Цяпер ён не сумняваўся, што Вялікі шаўковы шлях стане рэальнасцю. Мала прыдумаць яго кірунак ды дамовіцца пра гандаль і вайсковы саюз з бактрыйцамі, трэба гарантаваць бяспеку караванаў на ўсім шляху іх следавання, і ніхто лепш за жыхароў Марва не здольны зрабіць гэта...»

Вярнуўшыся з Марва ў Кітай, Чжан Цянь пра ўсё падрабязна даложыць імператару. Спачатку атрымае ганаровы тытул князя Баван, грашовае ўтрыманне ды іншыя ўшанаванні, але неўзабаве патрапіць у няміласць. Але праз нейкі час імператар зноў успомніць пра Чжан Цяня і выправіць яго рэалізоўваць ідэю Вялікага шаўковага шляху. Пачнуцца новыя выпрабаванні кітайскага пасла, зноў ён пабывае ў Марве, сустрэнецца з туркменскім краем...

Раман беларуса Л. Чыгрына і таджыка А. Хамдама (дарэчы, ён з'яўляецца членам Саюза пісьменнікаў Беларусі) «Жыццё Чжан Цяня, або Вялікі шаўковы шлях» абавязкова павінен прыйсці да туркменскага чытача. І верыцца, што гэта яшчэ адбудзецца. Бываючы ў апошнія гады ў Туркменістане, я распавёў пра Чыгрына і яго творчасць Агагельды Аланазараву — дзіцячаму паэту, празаіку, які таксама ў апошнія 10 — 15 гадоў працуе над гістарычнымі раманамі.

— Пра Чыгрына я чуў ад яго суаўтара Ато Хамдама, — адгукнуўся на мае расповеды Агагельды. — Ато — часты госць у Туркменістане. Бывае на выстаўках «Залатая кніга», якія мы штогод праводзім у Ашхабадзе. І, вядома ж, хацелася б выдаць што-небудзь з іх кніг, тэматычна звязаных і з Туркменістанам, старажытнай нашай зямлёй, і на туркменскай мове. Вельмі спадзяюся на гэта...

Упэўнены, што раманы Ато Хамдама і Леаніда Чыгрына сталі б у адзін шэраг з гістарычнай прозай туркменскіх аўтараў розных пакаленняў Берды Кербабаева, Клыча Кулiева, Хыдыра Дзяр'яева, Нарклыча Хаджагельдыева, многіх іншых таленавітых аўтараў.

Колькі слоў пра біяграфічнае, жыццёвае дачыненне Л. Чыгрына і А. Хамдама да Туркменістана. Леанід Чыгрын у свой час служыў у гэтай гарачай і цёплай краіне. Ато Хамдам — часты госць у Ашхабадзе. Як кнігавыдавец і перакладчык ён вельмі шмат зрабіў для развіцця таджыкска-туркменскіх літаратурных сувязей.

**Кірыл ЛАДУЦЬКА**

# Яго вышыня

**У беларуска-туркменскіх літаратурных узаемасувязях адно з першых месцаў належыць пісьменніку, публіцысту, краязнаўцу Міколу Калінковічу, які ў сваёй творчасці надаваў вялікую ўвагу знітаванню лёсаў беларусаў і туркменскага народаў. Асабліва ў гады Вялікай Айчыннай вайны. Пісаць пра гэта пачаў пасля таго, як жыццё закінула яго ў тагачасную Туркменскую ССР.**

Цікавы лёс і самога Мікалая Мікалаевіча. Нарадзіўся ў вёсцы Цна Лунінецкага раёна. Але ў школу пайшоў у горадзе Усць-Каменагорск, дзе працаваў тады яго бацька-рабочы. У 1958 годзе сям'я пераехала на Лунінеччыну. Вучобу прадоўжыў у Цнянскай сямігодцы, а ў 1968-м закончыў Лунінецкую сярэднюю школу № 2. На гэты час прыпадае і пачатак яго супрацоўніцтва з лунінецкай газетай «Ленінскі шлях», у якой надрукаваў першыя матэрыялы. У рэдакцыю гэтай газеты яго і ўзялі на пасаду літаратурнага супрацоўніка пасля некалькіх месяцаў настаўнічання ў Гаўрыльчыцкай васьмігодцы.

У хуткім часе маладога журналіста прызвалі ў армію. Тры гады службы сталі для яго не толькі часам грамадзянскага сталення, але і творчага развіцця. Па-ранейшаму дасылаў матэрыялы ў «Ленінскі шлях», наладзіў супрацоўніцтва з брэсцкай абласной газетай «Заря», пісаў і ў акруговую газету «На страже Родины».

Пасля арміі вярнуўся ў райгазету, якую ўспрымаў ужо як родную. Літаральна праз некалькі месяцаў паступіў на факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, пачаў супрацоўнічаць з рэспубліканскай «Сельской газетой». І настолькі плённа, што ў 1973 годзе Мікалая Калінковіча залічылі ў штат рэдакцыі.

Ды не толькі сельская праблематыка хвалявала яго. Зацікавіўся і краязнаўствам — спачатку роднай Лунінеччыны. Балазе ў яе гісторыі было нямала цікавых, а галоўнае, маладаследаваных, а то і зусім не вывучаных старонак. Гэта датычыла гісторыі і самога Лунінца, і раёна. Першыя публікацыі з'явіліся ў раёнцы, потым у абласным і рэспубліканскім друку. Сам жа аўтар ужо жыў кнігай, у якую павінны былі ўвайсці і гэтыя матэрыялы, і новыя. Ды не спяшаўся яе выдаваць, хацеў назапасіць як мага больш цікавых звестак. Таму пад назвай «Лунінец» яна выйшла на рускай мове толькі ў 1981 годзе. Потым, у 1989 і 1990 гадах, былі дапрацаваныя выданні.

> *Мікалай Калінковіч стаў адным з першых рэцэнзентаў аповесці Васіля Быкава «Яго батальён», надрукаванай у перакладзе на рускую мову ў часопісе «Наш современник» за 1976 год, кніг Ніны Мацяш «Прыручэнне вясны» і Міколы Федзюковіча «Макаў цвет».*

На дзіва плённа папрацаваў Мікалай Калінковіч, асэнсоўваючы палескі перыяд у жыцці выдатнага рускага паэта Аляксандра Блока. Калі ж канкрэтней, то лунінецкага, бо Аляксандр Аляксандравіч у Першую сусветную вайну служыў на Лунінеччыне. Краязнаўца, захапіўшыся гэтай тэмай, пачаў «раскручваць» стужку памяці, звяртаючы асаблівa пільную ўвагу на тыя вузлы, што датычылі Блока і Палесся, Блока і Лунінеччыны. Так, у нумарах «Сельской газеты» за 27 верасня і 1 кастрычніка 1975 года з'явіўся нарыс «Палесkія дні Аляксандра Блока».

Праўда, сказаць, што Мікалай Калінковіч цалкам стаў першаадкрывальнікам гэтай тэмы — значыць пакрывіць душой. Яшчэ ў дзявятым нумары часопіса «Маладосць» за 1958 год з нарысам «Аляксандр Блок на Палессі» выступіў гісторык літаратуры і літаратуразнаўца Ісідар Бас. Але істотна ўжо тое, што Мікалай Мікалаевіч не паўтараўся. Больш за тое, ён прыводзіў факты, якія раней не былі ва ўжытку. Таму, без сумнення, стаў першапраходцам. Яшчэ больш пацвердзіў гэта, калі пазней з'явіліся новыя публікацыі. А ў 1985-м у выдавецтве «Мастацкая літаратура» выйшла кніга М. Калінковіча «Палескія дні Аляксандра Блока».

Узнікае заканамернае пытанне: чаму так позна? Па-першае, таму, што тым, хто жыў не ў Мінску, выдацца было цяжэй, чым сталічнаму аўтару. Па-другое… Мікалая Калінковіча — чалавека крыштальнай чысціні і дабрыні — падвяла празмерная даверлівасць. Пазнаёміўшыся з яго публікацыямі пра Блока, сустрэўся з ім (а тады Мікалай Мікалаевіч жыў у Лунінцы) паспяшаўся адзін з карэспандэнтаў часопіса «Огонёк». Не западозрыўшы нічога кепскага, краязнаўца расказаў яму пра лунінецкі перыяд Блока ўсё, што ведаў. Нават тое, што не трапіла яшчэ ў друк. Праўда, неўзабаве гэтыя звесткі былі апублікаваныя. Толькі пад прозвішчам таго самага карэспандэнта. Колькі перажыванняў Мікалаю Калінковічу гэта каштавала! Даводзілася даказваць, што выкладзеныя факты пра Блока адшукаў менавіта ён, а не пранырлівы журналіст.

Але я крыху забег наперад. Мікалай Калінковіч хутка звярнуў увагу на сябе не толькі нарысамі, краязнаўча-даследчыцкімі артыкуламі. Пісаў ён і рэцэнзіі, праяўляючы высокі мастацкі густ. Стаў адным з першых рэцэнзентаў аповесці Васіля Быкава «Яго батальён», надрукаванай у перакладзе на рускую мову ў часопісе «Наш современник» за 1976 год, кніг Ніны Мацяш «Прыручэнне вясны» і Міколы Федзюковіча «Макаў цвет».

> *Краязнаўца, захапіўшыся гэтай тэмай, пачаў «раскручваць» стужку памяці, звяртаючы асабліва пільную ўвагу на тыя вузлы, што датычылі Блока і Палесся, Блока і Лунінеччыны.*

1976 год — год заканчэння ўніверсітэта. Некаторы час працаваў у рэдакцыі «Зари», потым быў намеснікам рэдактара лунінецкага «Ленінскага сцяга». А ў 1978 годзе ў жыцці журналіста пачалася новая паласа, якая і парадніла яго з Туркменістанам: Мікалая Калінковіча прызвалі на тэрміновую афіцэрскую службу. Знаходзячыся далёка ад Беларусі, не парываў сувязі з радзімай, з айчыннымі літаратурна-мастацкімі выданнямі, газетамі і часопісамі.

Пазнаёміліся мы з Мікалаем Мікалаевічам яшчэ тады, калі ён быў студэнтам. Пасля гэтага ніколі не парывалі стасункаў. Часцей падаваў голас ён. І калі служыў у Туркменістане, і калі вучыўся ў аспірантуры пры Маскоўскім вышэйшым вучылішчы Камітэта дзяржаўнай бяспекі СССР, і калі трапіў на службу ў Грузію. Не толькі ахвотна расказваў пра творчыя планы — ахвотна дзяліўся і вынікамі сваёй працы. З таго часу засталіся ў мяне тры яго кнігі. Першую з іх — «Не обрывается земная связь», выпушчаную выдавецтвам «Туркменістан», прыслаў з аўтографам адразу па выхадзе:

*«Шаноўнаму і дарагому земляку Алесю Андрэевічу Марціновічу — на добрую памяць са шчырай удзячнасцю за чуйныя адносіны да даследчыцкіх матэрыялаў пра «беларускі перыяд» Аляксандра Блока, з пажаданнем здароўя, шчасця, плёну ў творчасці, радасці ў жыцці…*

*11. 06. 1982 г. Ашхабад*
*Мікола Калінковіч».*

Другую — «Имя моё — свобода» — падарыў, будучы праездам з Масквы:

*«Шаноўнаму Алесю Андрэевічу Марціновічу, дарагому земляку — на добрую памяць.*

*7. XII г. Мінск*
*Мікола Калінковіч».*

«Палескія дні Аляксандра Блока» з яго аўтографам у сваёй вялікай хатняй бібліятэцы, на жаль, так і не змог адшукаць. Кніга невялікая памерам, таму недзе і загубілася.

Мікалай Калінковіч рэгулярна публікаваўся ў часопісах «Ашхабад», «Совет эдебияты», газетах «Комсомолец Туркменистана», «Вечерний Ашхабад» і іншых. У гэтых публікацыях паўстаюць воблікі выдатных людзей Туркменістана, Беларусі. Па туркменскім радыё гучалі яго радыёп'есы «Ліпеньскае зарыва» і «Камісар Закаспія».

Плённа даследаваў жыццё і службу Аляксандра Грыбаедава ў тагачасным Брэст-Літоўску. Захоплена пісаў пра знаходжанне Якуба Коласа на Палессі. У рукапісе засталася яго даследчыцкая праца пра публіцыста і літаратурнага крытыка Уладзіміра Самойлу, чый лёс звязаны з Янкам Купалам.

Жыццё Мікалая Калінковіча трагічна абарвалася 24 ліпеня 1990 года, а вечны спачын ён знайшоў у Лунінцы.

Міжволі хочацца правесці паралель паміж творчасцю свайго сябра і назвай яго рэцэнзіі за аповесць Васіля Быкава «Вышыня маёра Валошына». У Мікалая Мікалаевіча была свая вышыня — у жыцці, у творчасці.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

*Пошукі і знаходкі*

# Звычайнае шчасце Аксаны Ярашонак

**Ужо восьмы год у Ільянскай сярэдняй школе імя А. А. Грымаца працуе Аксана Ярашонак, паэтэса і перакладчыца.**

Карані Аксаны з вёскі Ілья (Вілейскі раён). Школу закончыла ў Маладзечне. Яшчэ ў пачатковых класах пачала пісаць вершы, а ў 1999 годзе ўзяла ўдзел у XIV гарадскім злёце юных талентаў, прысвечаным 610-годдзю горада Маладзечна, і заняла першае месца.

Пасля заканчэння школы атрымала прафесію сакратара-машыністкі. Потым паступіла ў Беларускі дзяржаўны педагагічны ўніверсітэт імя Максіма Танка на спецыяльнасць «Беларуская мова і літаратура і дзіцячая журналістыка». Савет універсітэта выдаваў газету «Настаўнік», у якой на літаратурнай старонцы «Крокі» друкаваліся вершы Аксаны. Тады ж яе творы трапілі ў «Анталогію маладога верша». У 2005-м пераехала працаваць на радзіму бацькі і мужа ў Ілью.

Аксана — педагог-арганізатар. Праца ў школе патрабуе шмат часу і напружання. Яе вельмі любяць дзеці і паважаюць настаўнікі. Свой журналісцкі талент Аксана рэалізуе праз нарысы пра імклівае жыццё школы, змешчаныя ў перыядычным друку. Восем гадоў таму заснавала школьную газету «Далягляд».

Аднойчы падчас сустрэчы са школьнікамі Аксана расказала, як стала паэтам-песеннікам. Праз прэсу пазнаёмілася з Віталем Качатковым, які з юнацтва захапляўся музыкай. Адгукнулася на прапанову, пачалася сумесная работа над песнямі. Шмат песень на словы Аксаны, музыку Віталя Качаткова загучала на радыё «Мінская хваля», «Культура», «Сталіца». У студэнцкія гады Аксана напісала верш пра Ікара, ён таксама загучаў песняй. А вось словы, якія пераклаў Віктар Рудэнка, загучалі песняй на адным з адборачных тураў «Еўрабачання».

Паэтэса ўжо каля пяці гадоў з'яўляецца пастаянным удзельнікам і актывістам розных літаратурных праектаў, накіраваных на ўмацаванне славянскага адзінства, захаванне агульнай творчай спадчыны народаў Беларусі, Украіны і Расіі.

Аксана — удзельніца Міжнароднага руху «Берагі сяброўства». Падчас рэалізацыі праекта яна пераклала вершы дзевятнаццаці аўтараў на беларускую мову. Потым былі пераклады твораў Святланы Макаравай-Грыцэнка з рускай на беларускую, якія знайшлі месца ў кнізе аўтаркі «Вершы спускаюцца з нябёс», творы Наталлі Саветнай, змешчаныя ў «ЛіМе», ды іншыя.



У 2012 г. Саюз пісьменнікаў Дона ўзнагародзіў А. Ярашонак юбілейным медалём «Дзесяць год Саюзу пісьменнікаў Дона». Праз год Рэгіянальная нацыянальная культурная аўтаномія беларусаў Растоўскай вобласці ўшанавала паэтэсу-перакладчыцу Ганаровай граматай.

Летась Аксану запрасілі паўдзельнічаць у Міжнароднай літаратурнай канферэнцыі «Слова. Айчына. Вера», якая праходзіла ў Санкт-Пецярбургу ў гонар 90-годдзя расійскага паэта Ігара Грыгор'ева. На Міжнародным конкурсе лірыка-патрыятычнай паэзіі «Я не ўяўляю сябе без Расіі» Аксана была ў шэрагу фіналістаў. Там ёй уручылі пасведчанне сябра Міжнароднага саюза мастакоў і майстроў мастацтва і грамату фіналіста.

У сакавіку ў сталічным выдавецтве «Харвест» выйшаў першы паэтычны зборнік Аксаны Ярашонак «Звычайнае шчасце».

**Роза ШЭРАЯ**

# Палюбіце колеры!

**Вялікая Айчынная вайна ў лёсе народнага мастака СССР і народнага мастака Туркменістана Ізата Клычава (1923 — 2006) пакінула яркі і ўражлівы след. У 1942 годзе пайшоў на фронт добраахвотнікам. Салдатам асобнай роты сувязі ваяваў пад Варонежам. Прайшоў дарогамі Беларусі, фарсіраваў Віслу, Одэр. Дзень Перамогі сустрэў у Берліне.**

Вось радкі з аднаго ўзнагароднага ліста на І. Клычава: «Яфрэйтар І. Клычаў, знаходзячыся на пасадзе старшага лінейнага наглядчыка, неадноўчы паказваў прыклады мужнасці і бясстрашша ў рабоце на баявых лініях сувязі. Пры абслугоўванні лініі сувязі ў раёне Хотча — Дольна — Гнядкуў, дзе былі частыя разрывы, шмат разоў яму даводзілася выпраўляць абрывы пад агнём праціўніка ў мінімальныя тэрміны».

Узнагарода за подзвігі — ордэн Айчыннай вайны II ступені.

Іншыя франтавыя ўзнагароды — ордэн Чырвонай Зоркі, медаль «За адвагу».

Нараджэннем з 1923 года, ён быў і праз усё сваё творчае жыццё заставаўся такім самым салдатам, як і яго беларускія равеснікі — мастакі, якія прайшлі праз вайну: Міхаіл Савіцкі (нарадзіўся ў 1922 годзе), Леанід Шчамялёў (нарадзіўся ў 1923 годзе), Віктар Грамыка (нарадзіўся ў 1923-м), Аляксандр Салаўёў (нарадзіўся ў 1926 годзе)… Беларусы шмат і плённа працавалі ў ваеннай тэме. Відаць, гэтаму спрыялі не толькі ўдзел у вайне, асабістым перажыты досвед, але і агульная атмасфера рэспублікі, краю, дзе літаральна ўсё нагадвала пра вайну.

У Туркменістане, у Ашхабадзе, мне давялося многія карціны, партрэты Ізата Клычава ўбачыць на ўласныя вочы. Канечне ж, яго любімы чырвоны колер мастаку навеяла родная туркменская старонка. Лёс ніколі не пеставаў выпрабоўваць гэтую асобу. Бацька Ізата Клычава — Анаклыч — мула, адукаваны чалавек. Яшчэ да рэвалюцыі ён як настаўнік паказваў дзецям дзеючую мадэль Сонечнай сістэмы з абарачэннем вакол свяціла Зямлі і Месяца. У 1933 годзе Анаклыч быў рэпрэсіраваны і разам з сям'ёю высланы ў халодны Паўночны Казахстан. У лагеры на вачах у дзесяцігадовага Ізата бацька і маці памерлі. Хлопчыку дапамог стаць на ногі старэйшы брат Рашыд.

У 1938 годзе Ізат Клычаў прыйшоў у школу-інтэрнат пры Ашхабадскім мастацкім вучылішчы. Першай сапраўднай настаўніцай для яго стала Юлія Данешвар, руская мастачка. Пасля Вялікай Айчыннай вайны — вучоба ў Ленінградзе. У майстэрні Барыса Іагансона выканаў дыпломную работу «У пустыні Каракумаў». Што цікава: каб рэалізаваць задуманае, Ізат пайшоў працаваць шараговым рабочым у геадэзічную экспедыцыю па Каракумах. Пракладваючы трасу будучага канала, цэлае лета — на пяцідзесяціградуснай гарачыні, знаходзіў час рабіць малюнкі, накіды, эцюды.

«Я з'яўляюся выхаванцам рускай культуры, атрымаў там адукацыю і ў сталым узросце дыхаў духоўнай атмасферай Расіі. Але люблю Туркменістан, люблю свае Каракумы. І першае, і другое для мяне непарыўна звязаны ў адно цэлае», — пісаў Ізат Клычаў.

Мастак, для якога Каракумы, родны край больш уяўляліся ў чырвоным колеры, вырас у прафесіянала высокага класа. У яго, пачынаючы з 1960-х гадоў, пачалі вучыцца земляні-наступнікі. Пра яго жывапіс спрачаліся. Нехта шукаў у работах небяспечны па тым часе фармалізм. Але былі і шчаслівыя моманты. Падтрымка калег, высокія адзнакі… У 1964 годзе Ізат Клычаў — ужо народны мастак Туркменістана… У 1973-м — народны мастак СССР. У 1967 годзе за серыю «Мая Туркменія» яму прысвоілі званне лаўрэата Дзяржаўнай прэміі СССР. 15 гадоў(!) Ізат Клычаў прадстаўляў родную рэспубліку ў саюзным парламенце. У 1983 годзе стаў Героем Сацыялістычнай Працы.



*«Да вяселля». 1980 г.*

І сёння, углядаючыся ў «Дываншчыц» вялікага майстра (работа датуецца 1975 годам), я думаю пра сілу колеру, фарбаў, выбраных Ізатам Клычавым. Іншым Туркменістан я і не ўяўляю. Выпрабаваўшы на сабе прыцяжэнне гэтага гарачага пустыннага краю, дзе чалавечыя сэрцы мясцовых жыхароў з'яўляюцца аазісамі дабрыні, душэўнай моцы, я заўсёды з любоўю разглядаў арыгіналы, рэпрадукцыі «Дзяўчынкі з вішнямі», «Асенняй песні», «Пустыні», «Легенды», «Нявесткі», «Белуджаў», «Вышывальшчыц»… Немагчыма адвесці позірк, немагчыма разглядаць карціны паспешліва…

Сярод партрэтаў Ізата Клычава — адлюстраванні добра знаёмых мне пісьменнікаў Каюма Тангрыкуліева і Сейтніяза Атаева. У апошняга з іх, франтавога разведчыка, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну на перадавых яе рубяжах, я неяк запытаўся: «У чым жа таямніца прыцягнення такога вялікага жывапісца, як Ізат Клычаў?» І вось што некалькі дзесяцігоддзяў таму, цэлую вечнасць ад мяне сённяшняга, адказаў камандзір батальёна франтавой разведкі Сейтніяз-ага: «А ты ведаеш, як пахне пустыня? Ты бачыў цюльпаны ў перадгор'і Капет-дага? Ты чуў шапаценне лістоты ў Фірузе? А якімі колерамі ў тваіх вачах паўстае бавоўна? Адказы на ўсе гэтыя пытанні — толькі ў гэтым таямніца прыцягнення, таленту вялікага Ізата Клычава, яго мастацкіх адкрыццяў, яго прачытання Туркменістана і туркменаў…» І сёння, знаходзячыся ў дзіўнай прасторы прыцягнення фарбаў Ізата Клычава, працягваю верыць словам, адзнакам разведчыка 1-га Беларускага фронту, ганаровага старэйшыны народа Туркменістана Сейтніяза Атаева. Паверце і вы… Наведайце музеі і галерэі, адкрыйце старонкі альбомаў і манаграфій — і, гледзячы на работы любімага мной Ізата Клычава, вы атрымаеце зарад сілы і энергіі. І вы таксама палюбіце Туркменістан.

**Максім ЛАДЫМЕРАЎ**

# Адценні лёсаў

Выстаўка Мікалая Залознага «Колер жыцця», прымеркаваная да 90-годдзя з дня яго нараджэння, адкрылася ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь. Каля 30 твораў жывапісу і столькі ж рэдкіх архіўных фотаздымкаў склалі аснову экспазіцыі.

Мікалая Залознага называюць мастаком магутнага тэмпераменту, які ўдала спалучае сакавітыя колеры, прадуманыя, часам сімвалічныя сюжэты і ўпэўненыя, «з характарам», мазкі, што надае яго карцінам неверагодную рэалістычнасць і духоўную моц. Ён працаваў у мастацтве ўсяго дваццаць гадоў, але паспеў пакінуць глыбокі след у айчыннай культуры.

На карцінах дамінуе колер жыцця — чырвоны ў розных адценнях. Акрамя таго, мастак вельмі выразна, нібы скульптар, лепіць фактуру прадметаў і вобразаў. Творчасць Залознага не ўпісвалася ў межы свайго часу, бо напярэдадні 1960 — 1970 гадоў у беларускім жывапісе яшчэ панавала сціплая каларыстычная сістэма. Мікалай, як чалавек пастаянных творчых пошукаў, здолеў апярэдзіць сваю эпоху, удыхнуць у мастацтва смеласць і разняволенасць. «Менавіта па яго дарозе ў наступныя дзесяцігоддзі пайшлі новыя пакаленні нашых жывапісцаў», — лічыць кандыдат мастацтвазнаўства Вольга Каваленка.

Новая стылістыка ў творчасці айчынных мастакоў была абумоўлена і сацыяльнымі зменамі. Так з'явіліся творцы «суровага стылю», карціны якіх вызначаюцца яркай сюжэтнасцю і дынамікай, дэманструюць жыццё як яно ёсць. Жывапіс Мікалая Залознага ў гэты перыяд таксама вылучалі асаблівая графічнасць і манументальнасць, буйнафарматнасць і гераічны падтэкст. Адразу пасля вучобы ў творчасці мастака пачынае пераважаць ваенная тэматыка, таму што ён сам прайшоў вайну — трапіў на фронт у 1945-м, браў удзел у вызваленні Прагі, дайшоў да Берліна…

Мікалай Залозны ўзнаўляе вобразы маці, жонак і сясцёр, якія чакаюць сваіх мужчын («Салдаткі», «Вярнуўся»), звяртаецца да сімвалаў дрэва і цяжарнай жанчыны, каб паказаць, што адны пакідаюць нас, а іншыя прыходзяць у гэты свет («Рабіна»). Адзін з самых загадкавых у творчасці — «Партрэт удзельніка грамадзянскай і Айчыннай вайны А. Нячаева», бо асоба на карціне невядомая і дагэтуль (ні родным, ні знаёмым Мікалая Рыгоравіча), хаця нарадзіўся твор яшчэ ў 80-я гады.

Па словах Вольгі Каваленка, падчас другога перыяду творчасці, калі ішло аднаўленне краіны, увага мастака сканцэнтравалася на індывідуальных лёсах людзей, штодзённых калізіях жыцця, прыгажосці навакольнага асяроддзя. Многа ў Мікалая Залознага і нацюрмортаў — відаць, гэтаму жанру ён быў верны на працягу ўсяго жыцця, бо знаходзіў у ім гармонію і супакаенне.

Творы, што склалі выстаўку «Колер жыцця», трапілі да гледачоў як са збораў музея (18 карцін), так і з калекцыі Беларускага саюза мастакоў, а таксама сям'і майстра.



*Партрэт удзельніка грамадзянскай і Айчыннай вайнаў А. Нячаева. 1982 г.*

«У творчасці Мікалая Залознага выдзяляюць тры знакавыя карціны. Першая, «Макі», была створана ў 1968-м годзе. Схіленая фігура дзяўчыны на каленях, твар якой закрыты рукамі. Вогненна-чырвонае поле побач. І больш нічога. Але гэта гісторыя аднаго чалавека і ўсяго свету. Калі салдаты прыходзілі з фронту, на Беларусі было прынята кідаць да іх ног яблыневыя кветкі, а ў Заходняй Еўропе — макі. Мікалай Залозны вяртаўся з Прагі, таму нядзіўна, што абраў менавіта гэты матыў», — заначыла куратар выстаўкі, старшы навуковы супрацоўнік аддзела сучаснага беларускага мастацтва Настасся Карнейка.

Другая карціна — «Чайкі» — поўная супрацьлегласць, сімвалізуе працяг жыцця. На ёй дзяўчаты адпускаюць у неба птушак… Трэцяе палатно, на якое звярнула ўвагу куратар, не зусім тыповае для Залознага, бо на ім не людзі, а жывёлы. Карціна «Коні», створаная ў 1966-м, нагадвае элегію на закаце.

**Марыя ВОЙЦІК**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Намеснік галоўнага рэдактара Інеса Яўгенаўна ПЕТРУСЕВІЧ**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 287-17-98
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 3.12.2015 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 200.

Кошт у розніцу — 3900 рублёў

**Адкрытае акцыянернае таварыства «Чырвоная зорка»**
ЛП № 02330/99 ад 14.04.2014
Зав. 1-ы Загарадны, 3,
220073, Мінск.

Заказ — 1500 г-д

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686